# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

ШТОМЕСЯЧНАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ.




№ 1. Орган ЦКЛКСМБ і Наркомасьветы. 1926 г.

## Аб чарговай працы піонэр.-атраду.

„На падлік кожны недалік“, наладзіць правільнае фізычнае выхаваньне. Разгарнуць агульна-політычную працу сярод неорганізованых дзяцей. Узмацніць выхаваўчую працу.

У працы піонэрскага атраду мы зараз маем шмат дасягненьняў, але разам з тым і шмат недахопаў. Калі ў адным атрадзе ўзмацнілася сувязь з комсамольскай ячэйкай, узмацнілася праца й палепшыўся посьпех піонэраў у школе, затое гэта кепска адбіваецца на працы ў сям'і, сярод неорганізованых дзяцей.



Для таго, каб правільна абсталяваць працу атраду, ведаць яго недахопы, трэба зьвярнуць на іх вялікую ўвагу.

Такім чынам, першай задачай зьяўляецца падлік сваіх недахопаў з мэтай зьнішчэньня іх у жыцьці і працы піонэрскага атраду. Напр., неорганізованыя дзеці маюць кепскія адносіны да піонэраў, лаюцца і г. д.

Трэба бліжэй прыгледзіцца да гэтага становішча і зьнішчыць яго.

Далейшая задача атраду зрабіць правільнае фізычнае выхаваньне. У сучасны момант зіма... Мы маем магчымасьць для таго, каб загартаваць сваё цела, зрабіць яго такім, каб яно не баялася прастуды і г. д.

Кепскі той атрад, які ня робіць прагулак, катка і праводзіць сходы ў шапках і кажухох. Ня можа быць той хлапец або дзяўчына піонэрам, якія ходзяць з бруднымі рукамі і вушамі. Чым мацнейшы і здаравейшы будзе піонэр, тым мацнейшая будзе зьмена комсамолу.

Ня трэба атраду забывацца і аб тых дзецях, якія сёньня яшчэ не піонэры. Калі мы пачынаем праводзіць добрую працу ў хаце-чытальні, ставім вечары для сялян, то кепска разгарнулі працу сярод неорганізованых дзяцей.

Трэба ставіць вечары для „не піонэраў“, зацікавіць іх працай піонэрскага атраду, уцягнуць іх у гэтую працу. Зрабіць добрыя адносіны з неорганізованымі дзецьмі, зьвярнуць увагу на тое, каб піонэры трымалі сябе добра ў школе і ў другіх грамадзкіх установах.

Ня трэба забывацца закону: „піонэр усім дзецям прыклад“, забываючы гэты закон, мы ўжо напалову робімся не піонэрамі. Апошняе — гэта аб выхаваўчай працы і выпаўненьні ўсіх нашых законаў.

Не сакрэт, што дысцыпліна аслабла, што ня ўсе піонэры выпаўняюць законы і звычаі. Некаторыя лаюцца, ня носяць гальштукаў, ня слухаюць свайго павадыра і г. д. Усё гэта кепска, а кепскае трэба зьнішчыць.

Наша задача дабіцца таго, каб кожны піонэр быў прыкладам для другіх па сваёй акуратнасьці. Толькі тады мы сапраўды будзем насіць назву нашай піонэрскай організацыі.

У гэтым артыкуле я зьвярнуў увагу на нашы галоўныя задачы. Усе другія задачы, якія маюць дачыненьне да піонэрскай організацыі, можна знайсьці ў нашай часопісі „Беларускі Піонэр“, якую трэба чытаць кожнаму піонэру.

**Павадыр.**



Менск. 1-ая друкарня „БДВ“. Зак. № 1678 Галоўлітбел № 15737.

2-гі ГОД ВЫДАНЬНЯ.




ШТОМЕСЯЧНАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ
ОРГАН
ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР

— АДРАС РЭДАКЦЫІ: —
Менск, Пляц Волі, Наркамасьветы БССР,
тэлефон № 443.

№ 1. СТУДЗЕНЬ 1926 г.

## 8-мы Ўсебеларускі зьезд комсамолу аб працы піонэр.-організацыі.

Некалькі дзён таму назад скончыў сваю працу 8 зьезд ЛКСМБ.

На зьезьдзе было шмат пытаньняў працы комсамолу, якія ён вырашыў поўнасьцю і цяпер задача мясцовых організацый—у сваёй паўсёднай працы выконваць пастановы зьезду.

Паміж іншымі пытаньнямі было вырашана і пытаньне чарговых задач піонэр.-організацый.

Піонэрскі рух да 8-га зьезду значна пашырыўся і ў апошні час асабліва за лік вёскі. Калі к 7-му зьезду піонэр.-організацыя налічвала ўсяго 5.000 ч. то цяпер яна ўзрасла да 53.370 чалавек.

Супольна з колькасным узростам узрос і якасны склад піонэраў. Значна палепшылася выхаваўчая праца ў піонэр.-атрадах. Павялічыўся ўплыў піонэрскай організацыі на масы неорганізаваных дзяцей, дзеці рабочых і сялян выхоўваюцца ў комуністычным напрамку.

Значна павялічылася ўвага комсамольскіх ячэек да сваіх атрадаў, ячэйкі пачынаюць практычна кіраваць атрадам і дапамагаюць піонэрскаму атраду. Мы ўжо пачынаем пашыраць у нашых шэрагах комсамольскі асяродак і цяпер маем у сваёй організацыі 6 процантаў піонэраў-комсамольцаў.

Узмацнілася грамадзка-політычная праца піонэраў. Мы пачынаем выхоўваць сабе зьмену—акцябрат.

Вось асноўныя дасягненьні, якія адзначыў зьезд. Але побач з дасягненьнямі адзначаны і недахопы.

Піонэрскі рух пашыраецца—пашыраюцца і запатрабаваньні піонэраў, здаволіць і даць належны напрамак запатрабаваньням піонэраў—задача комсамолу.

Яшчэ ня ўсюды атрады працуюць так як трэба—ня зусім добра мы дапамагаем комсамолу ў яго працы.

Ня ўсе атрады разгарнулі сваю працу сярод дзяцей, неабхопленых піонэр.-організацыяй, а таксама слаба ўвязваюць сваю грамадзка-політычную працу з унутры-выхаваўчай.

Зьезд зьвярнуў вялікую ўвагу на неабходнасьць забясьпечаньня атрадаў досыць падрыхтаваным актывам, а гэта зараз асабліва патрабуецца.

Абгаварвалася пытаньне і аб тым, што слаба пастаўлена ў атрадах фізычнае выхаваньне, маецца шмат момантаў, калі по-



нэры ня выконваюць сваіх законаў і звычаяў, няпрыкладнасьць тлумачыцца хваросьцю на падставе перагрузкі.

Абгаварыўшы ўсе пытаньні, зьезд даў належны напрамак далейшай працы—і задача піонэрскай організацыі ўсе пастановы правесьці ў жыцьцё.

Зьнішчыць тыя недахопы, якія ў нас яшчэ маюцца, падвесьці вынікі вопыту і пайсьці наперад да новых дасягненьняў— гэта ёсьць наша чарговая задача.

Піонэрская організацыя будзе пашырацца і далей, маючыяся лічбы колькасьці дзяцей піонэрскага ўзросту кажуць аб тым, што мы яшчэ мала абхапілі дзяцей, асабліва гарадзкой беднаты і малых парабкоў у вёсцы.

Задач вельмі многа, працы—шмат.

Ня трэба здавальняцца дасягненьнямі, бо ня менш і недахопаў, гэта значыць, што трэба працаваць, працаваць і працаваць.

Ведаць пастановы зьезду—задача кожнага піонэр.-працаўніка і піонэра. Ведаць і выконваць.

**І калі мы зможам выканаць тое, што намечана, а залогам гэтага ёсьць наш пройдзены шлях, тады мы апраўдаем імя, якое носім—імя Ў. І. Леніна.**

Міхась Лабадаеў.

# Ланцуг не да твару краіне палёў...

* * *

Месяц чоўнам
Плыве па небу...
Ўскіпаюць словы:
Сьпяваць іх трэба!
Льле месяц срэбрам
Па Беларусі...
Журбу заплёў ён
У косы русы.
Ах, Беларусь!
Мой весьні-весьнік
Табе малюся,
Краіна песень!..
Ты, што-ж так сумам
Сумуеш, родная?
Ой, што-ж сумней для нас,
Як кліч:
„Заходняя“...

* * *

Ланцуг не да твару
Краіне палёў...
Паўстаць стан сярмяжных—
Заўсёды гатоў!

* * *

У Беларусі хвоі руты...
Гаі...
Песьні
... І зоры...
Ёсьць ў ёй дзеткі—
Волі сьведкі,
І ліхой нядолі...

* * *

Згіньце буржуі
З лапцюжнай зямлі!
Дзецям беларускім
рабамі—
ня быць!

* * *

Ланцуг не да твару
Краіне палёў...
Паўстаць стан сярмяжных—
Заўсёды гатоў!

**Анатоль Вольны.**

# Юнак.

Я сягоньня у сьвет вышаў:
Стаў я піонэрам,
І набраўся вольна-моцнай
Я сягоньня веры!

Я дзіцё... дзіцё працоўных,
Я дзіцё комуны,
Я дзіцё заводаў, фабрык—
Ленінец я юны.

Будаваць жыцьцё сягоньня,
Будаваць сьвет новы—
Шчыра, моцна крыкну я—
„Я заўжды гатоў“!

Дык няхай у сьвет нясецца
Піонэрскі цьвёрды кліч,
Што мы будзем жыць, змагацца,
Як настаўнік наш—Ільліч!

**К. Шавель.**

# Шаўцоў Янка.

(*З апавяданьня*).

... Чуць не палавіну хаты займала печ і напроці гэтае печы, каля самых дзьвярэй, было цясьней як дзе. Там ляжалі і дровы, і прылады ўсякія хатнія, там стаяла карыта, і часамі па некалькі дзён сьмяцьцё адтуль ня выносілася, бо ня было нікому часу займацца гэтым. Маткі цэлымі днямі ня было дома—заўсёды была яна на падзённай рабоце і толькі зімою часьцей заставалася ў хаце...



Летам дні былі зусім слаўныя. Доўгія яны тады, некія шырокія, вольныя. І гэта была самая лепшая пара для Янкі і Мінькі. У хаце, каля печы, было прыстроена некалькі дошчак, дзе зімою даводзілася падоўгу сядзець, бо бацьку здавалася, што калі хлапчук будзе пабольш сядзець на адным месцы, мала бегаць і крычаць, дык з яго некалі выйдзе сталы й разумны чалавек. Дык вельмі-ж надакучаў гэты цесны кут каля печы. А гэта, тут-жа, перад самаю хатаю была вуліца, на якой было так слаўна ад паднятага калясьмі пылу і так весела ад таго, што там і ў драбінах, і конна езьдзілі; там можна было і крычаць, і сьвістаць. А калі хацелася імчацца некуды ад некай вясёласьці або падскочыць вышэй страхі і ня можна было і таго й другога зрабіць так, як-бы хацелася, дык можна было тады набраць поўную шапку пяску й сыпануць яго вышэй галавы. Пясок падляціць угору, а там вецер як хваціць яго ды калі панясе слупам, дык і Янка, і Мінька, і Юзік там, і ўсе іншыя глядзяць угору ды крычаць:

— Весела-а-а!..

Адзін раз у гэтую хвіліну праходзіў па вуліцы стары Лейба, з некім мяшком за плячыма, дык Мінька ні з таго, ні з сяго і гукнуў у Лейбы перад носам:

— Лейба, ганяй вецер!..

І тады якраз здарылася тое, што доўга памятаў і Мінька, і Янка, і ўсе, хто быў там.

З хаты выскачыў бацька з папружкаю ў руках і хваціў Янку за рукі. Мінька пабег на агароды, а Янка быў заведзен у хату.

— Татачка, гэта, ня я крычаў, гэта Мінька крычаў!—галасіў Янка, а бацька, са злосьці ў тую хвіліну на ўсё, што толькі было на сьвеце, правёў Янку скрозь цёмныя сені ў цесную хату і паставіў яго перад сабою. Пасьля нагнуўся, каб узяць больш цьвёрды рамень і раптам рассыпаў з скрынкі дробнае сваё шаўцоўскае начыньне.

Аж скрывіліся ўяго губы ад злосьці, аж пабялеў цёмны твар. І ён рвануўся, каб схваціць абы што й даць Янку ім, але Янка раптам нек ціхенька заплакаў. Апусьціў уніз рукі й заплакаў. Ня крычаў, а плакаў буйнымі сьлязьмі.

Бацька выпрастаўся, пачухаў нябрытую даўно бараду і нешта як-бы падумаў. Пасьля, як вельмі ўтаміўшыся, абясьсілеўшы, пашоў моўчкі ў куток, дзе маленькае акенца выходзіла на вузкі двор, а Янку здалося, што гэта ён нешта там схваціць, раптам замахнецца і з усіх сіл ударыць моцна й балюча.

Тады рвануўся Янка з месца, праімчаўся па хаце ў цёмныя сені, дабег да дзьвярэй і там уцяміў, што дзьверы бацька ўзяў на засаўку, а яна высока й не дастаць яе, каб адчыніць іх...

З самай яшчэ вясны ў сенцах стаялі парсяты. Хацелася ім страшэнна павылазіць на двор і яны рыліся, пасьля прарылі такі пад падрубай нару і павылазілі. Пасьля Янка і Мінька больш праграблі гэтую нару і ўпіхалі праз яе, каб бацька ня бачыў, нанач часамі некага рыжага валачашчага сабаку. І цяпер гэтая нара паслужыла шырокай дарогай самому Янку. Ён, як стаяў, кінуўся на зямлю, шмаргануўся жыватом аб яе, халодна-вільготную, і палез на двор. Быў у яго страх, вялікі вельмі ў тую хвіліну, калі сам ужо быў на дварэ, а ногі былі яшчэ ў сенцах.

Пранізала яго голаў вострая думка: гэта-ж дагоніць бацька, ды схваціць за ногі і ўвалачэ назад у сенцы; нават хватае ужо, нават хваціў ужо...

Янка рвануў нагамі і быў ужо на дварэ. Тады стала яму ясна нек, што бацька гэта не хватаў яго за ногі, нават у сенцы не выбягаў. Але побач з гэтаю думкаю, была й вялікая трывога. Моцна калаціласа сэрца, галава была мокрая ад поту, а твар ад сьлёз. І як толькі вылез Янка з нары ды ўскочыў



на ногі—кінуўся бегчы на агароды, куды ня выходзілі вокны з хаты, дзе нікога ня было, каб убачыў яго . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . .

Прышоў Янка дадому назаўтра ў паўдня. Мінька зьявіўся тады-ж, падвечар, а Янка, як ішоў дадому, дык увесь быў ахвачан як-бы таею халоднаю вільгацьцю, якая была за хлявом у вагародзе, у раўку між градамі табакі, дзе ён пралежыў ноч.

Бацька спаткаў яго моўчкі; панура глянуў на яго, нек вінавата блеснуў вачыма і сказаў глуха:

— Ідзі еж...

Была ў яго голасе і крыўда некая на нешта, і злосьць, і жаласьць, і сьлёзы... Тое-ж самае было і ў Янкі: і крыўда вялікая, і жаласьць да некага—ці да сябе, ці-то да бацькі. Хацелася яму заплакаць, ды баяўся нек. Ён папрабаваў есьці; пасёрбаў трохі на лаве каля дзьвярэй халоднага крупніку з вялікага гаршка, а пасьля палажыў лыжку, вышаў у цёмныя сені, сеў там на зямлі за куфрам і заплакаў. І чым больш ён плакаў, тым усё лягчэй яму рабілася. І тады дзяцінымі думкамі сваімі дашоў да бацькавае чорнае, спрацованае постаці: і стаў думаць аб бацьку. Успомніў раптам, як вясною была халодная гразь з сьнегам, а ў бацькі ня было ботаў, і хадзіў ён у некіх старых хадакох.

Тады ўстаў Янка з свайго цёмнага кутка за куфрам і глянуў у хату праз прачыненыя трохі дзьверы. Бацька сядзеў за сваім нізенькім столікам на перавернутай бокам калодзе і абгладжваў шклом абцас у новым боце. Тады нек, дзяцінаю душою сваёю, некім глыбокім пачуцьцём, як-бы дагадаўся Янка, што ўсё тое нядобрае, пакутнае, што было, не ад самога бацькі-шаўца, не ад самога яго—Янкі ці Мінькі, не ад старога Лейбы, які з мяшком прашоў па вуліцы, не ад таго свавольля, з якім яны сыпалі ўгору шапкаю пясок, а ад некай неналажанасьці жыцьця. Ад таго, што бацька сядзіць адзін у хаце, нікуды ў людзі ня ходзіць, як воўк сам з сабою, заўсёды за сваімі ботамі, што матка дадому прыходзіць для таго толькі, каб пераначаваць ды зварыць крупнік у вялікім гаршку...

Ад усяго гэтага нек тое нядобрае робіцца...

. . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . .

Усе тыя дні панурым хадзіў Янка. Бачыў, як бацька некуды два разы хадзіў днём, а сам стаяў каля агароду моўчкі ды глядзеў на грады цераз плот, прыпёршыся плячом да сьцяны хлява.

І яшчэ ў той дзень ня ведаў ён аб тым, аб чым ужо даведаўся яго бацька—што тут-жа блізка тое патрэбнае й важнае. Што апрача дратвы ды малатка, неабходных для шыцьця, ёсьць яшчэ й само жыцьцё...



Шавец вышаў з сяней і, сагнуўшыся сваёю шырокаю сьпіною, пашоў па дварэ. Каля дзеравянай сьцяны ўзяў ён каравымі рукамі за плечы Янку, прыгарнуў яго да сябе і пагладзіў пальцамі па галаве й шыі. І раптам, як-бы чаго гэта засароміўшыся, адышоўся.

І сьперш падумаў быў Янка: „гэта-ж мусіць бацька біць будзе ці за вушы круціць“, але нек не хацелася яму ўцякаць, а зьявілася раптам задорная думка:

— Ну што-ж, бі, муч!..

А як бацька, пашкадаваўшы яго, адышоўся, стала яму раптам і сумна, і радасна.

Ён ужо з уздымам пачуцьцяў, стаяў пасярод двара й глядзеў, як вецер узьнімаў на вуліцы сухі пыл...

Кузьма Чорны.

# Кім*).

**Кім забаўляецца.**

З ваты зрабіў ён бародку,
Лыжкаю б'е ў скавародку
І бубніць: бу-бу, бу-бу!—
Ў самаварную трубу.
Сьмелы хлапчына Кім,
Кожны хоць быў-бы такім,
Бацькавай круціць лінейкай,
Шабляю быццам маленькай.
Цыркуль к штанам прывязаў—
Бачыце, гэта кінжал.
Дзе ні павернецца Кім,
Кожны дрыжыць перад ім.
Мухі над нашым гэроем
Боязным круцяцца роем.
Сьмелы мурлыка кот
І той, падцягнуўшы жывот,
Прэцца ад Кіма далей,
Бо Кім за мурлыку сьмялей.
Нават і ты, мой чыж,
Ў клетцы прад Кімам дрыжыш.

**Ваяцкая песенька Кіма.**

Выхадзі ты ну, ну, ну!
Кінжалом цябе кальну.
Гэтай шабляй удалой
Галаву зьнясу далоў.
Раз, два, тры!
Выхадзі!
Паглядзі,
Як пад ложак—раз і два
Паляцела галава.
Як патрэбны будзе бой,
Ваяваць магу з трубой.
Скавародка будзе шчыт—
Як тут кот не запішчыць!

**Кім бярэцца за працу.**

Ах, даволі забаўляцца,
За работу трэба брацца.
Кім садзіся і пішы,
А ну, дзе карандашы?
Доўгі, тонкі, сябра наш,
Бегай мілы карандаш!
Па паперы: цыр, цыр, цыр!
Цыркуль ножкі растапыр!
Скавародку, лыжку кінуў—
Ёсьць работа ўжо у Кіма.
Трэба Кіму рысаваць,
Розных месцаў пляны даць.



А на дзьверах у палатцы
Будзе надпіс красавацца
Як уночы, так і ў дзень
Імя Леніна ў зьвязьдзе.

**Зьяўленьне бабулькі Домны.**

Кім сядзіць, рысуе дома,
Аб усім забыўся Кім.
Не глядзіць ён на бакі.
Раптам к Кіму—ўходзіць Домна.
— Добры вечар, мілы ўнук!
Шмат-жа вывучыў навук?
Колькі часу тут сядзеў?
Дзе ты матку, бацьку дзеў?
Кажаш ў клюб яны пашлі?

*) З расійскага.



— Ну, а ты чаму ня сьпіш?
— Мне ня сьпіцца—я старая,
А табе то спаць пара.
Хто ня сьпіць у гэткі час,
Бука зьесьць яго за раз...—
Кіма баба ўсё пужае,
Спаць лажыцца прымушае.
Цыркуль Кім ужо згарнуў,
Слухаў, слухаў,—і заснуў.

**Вось дык Бука!**

Кім спужаўся: што за штука?
Дзьверы насьцеж,—ідзе бука,
Настаяшчае страхоцьце
Цела букіна ў камодзе.
Качарга і вілкі ў букі—
Гэта, бачыце, ёсьць рукі.
І падумаць хто-бы мог!—
Самавары заміж ног.
Лава, стол, часы і міска
Буку кланяюцца нізка.
Ўсё сьпяшаецца, ляціць,
Хоча буку угадзіць.
Толькі Кім ня скочыў з лавы
І паклона не паслаў ён.
Кім увагі не зьвярнуў,—
Бука Кіма праглынуў.
Кім ня трус і па прыродзе—
Аглядзеўся: ён ў камодзе.
Жыцьцё ня дрэннае для нас!
Мякка—ўсюды бялізна.
Толькі штосьці тут маркотна,
І валяцца не ахвота.
Кім нажаў плячом—і ён,
Паляцеў з камоды вон.
Здагадаўся хутка Кім,
Што было такое з ім.
Ён глядзіць – ніякіх штукаў:
Гэта скрынка была букам...
Абвяшчае Кім свабоду



Дзеравянаму народу.
І бягуць на ўсе бакі
Сталы, лавы й чайнікі.

**В. Васіленка.**

**Піонэр организуе дзяцей, якія жывуць вакол яго і прымае ўдзел з імі ўва ўсім вакольным жыцьці. Піонэр—усім дзецям прыклад.**

А. П. Чэхаў.

# Белалобы.

Галодная ваўчыха ўстала, каб ісьці шукаць сабе чаго-небудзь пад'есьці. Яе ваўчаняты, усе ўтраіх, моцна спалі, зьбіўшыся ў кучу, і грэліся адно ля другога. Яна аблізала іх і пашла.

Быў ужо вясновы месяц сакавік, але ад халодных прымаразкаў дрэвы трашчэлі, як у сьнежні. І толькі высунеш язык, як яго пачынала моцна шчыпаць. Ваўчыха была слабога здароўя, пужлівая; ад самага малень-кага шуму яна палохалася, падскаквала і ўсё думала аб тым, каб хто дома без яе не пакрыўдзіў ваўчанят. Пах ад чалавечых і конскіх сьлядоў, пні, кучы зложаных дроў і цёмная, з чорнымі плямамі ад гною, дарога пужалі яе, ёй здавалася, быццам за дрэвамі ў цемені стаяць людзі і дзесьці за лесам выюць сабакі.

Ваўчыха была ўжо старая, і нюх у яе аслабеў, цяпер здаралася з ёй часта тое, што яна сьлед лісіцы лічыла за сабачы, часамі праз гэта зьбівалася з дарогі, чаго з ёю ніколі ня было ў маладых гадох. Па слабасьці здароўя яна ўжо не нападала на цялят і вялікіх бараноў, як раней, і ўжо далёка абыходзіла коняй з жарабятамі, а кармілася мясам ад здохлых жывёлін; сьвежае мяса ёй прыходзілася есьці вельмі рэдка, толькі вясною, калі яна, натрапіўшы на зайчыху, крала ў яе дзяцей, або залазіла к сялянам у хлеў, дзе былі ягняты. У чатырох вярстох ад яе бярлогі, ля паштовай дарогі, знаходзілася хата. Тут жыў палясоўшчык Ігнась, дзед, гадоў пад семдзесят, які ўсё кашляў і размаўляў сам з сабою. Звычайна ўночы ён спаў, а ў дзень хадзіў па лесе з стрэльбаю-аднастволкаю і пасьвістваў на зайцоў. Мабыць, ён раней служыў у мэханіках, таму што кожны раз перш чым супыніцца, крычаў сабе: „Стой машына!" і перш чым пайсьці далей: „Поўны ход!" У палясоўшчыка быў вялікі чорны сабака невядомай пароды, які меў назву Арапка. Калі сабака забягаў далёка наперад, то дзед крычаў яму: „Задні ход!" Часамі ён сьпяваў і пры гэтым моцна хістаўся на бакі і часта падаў (ваўчыха думала, што гэта ад ветру) і крычаў: „Зышоў з рэек!" Ваўчыха помніла, што ўлетку і ў восень ля хаты палясоўшчыка пасьвіліся: баран і дзьве авечкі і калі яна ня так даўно прабягала сюдою, то ёй здавалася быццам у хляве бляялі. І цяпер, падыходзячы сюды, яна адчувала, што ўжо сакавік і, мяркуючы па часе, у хляве павінны быць ягняты, абавязкова. Яе мучыў голад, яна думала над тым, з якім смакам яна будзе есьці ягнё, і ад гэткіх думак зубы ў яе ляскалі і вочы гарэлі ў цемені, як два агоньчыкі. Хата Ігнася, яго хлеў і гумно, і студня былі засыпаны высокімі гурбамі. Было ціха... Арапка, мабыць,



спала пад хлявом. Па гурбе ваўчыха залезла на хлеў і пачала лапамі і мордаю разграбаць саламяную страху. Салома была гнілая і ня моцная, так што ваўчыха чуць не праваліліся; раптам пачула яна пах цёплай пары, гною і авечага малака. Унізе, адчуўшы холад, забляяла ягнё. Скочыўшы ў дзірку, ваўчыха ўпала пярэднімі лапамі і грудзямі на нешта мяккае і цёплае, мабыць, на барана, і ў гэты час у хляве раптам штосьці заскавытала, забрахала і залілося тонкім галаском; авечкі рынуліся да сьцяны і ваўчыха, спужаўшыся, схапіла, што першым папалася на зубы, і кінулася вон...

Яна бегла з усёй моцы, а ў гэты час Арапка, ужо пачуўшы воўка, бясстрымна выла, кудахталі ўстрывожаныя куры, і Ігнась, вышаўшы на ганак, крычаў: „Поўны ход!", „Ідзі к сьвістку!" І сьвістаў, як машына, а пасьля—го-го-го-го! І на ўвесь гэты шум адказвала лясное рэха... Калі патроху ўсё заціхла, ваўчыха прышла ў сябе і пачала заўважваць, што яе здабыча, якую яна тры-

мала ў зубох і цягнула па сьнягу, і цяжэйшая, і цьвярдзейшая, чым ягняты гэтай пары, і пах ад яе быў нейкі інакшы і чуліся якіясьці дзіўныя гукі... Ваўчыха прыпынілася і палажыла сваю здабычу на сьнег, каб аддыхаць і пачаць есьці, і раптам адскочыла ад яе з ненавісьцю. Гэта было не ягнё, а чорны сабачка, з вялікай галавою і на вы-



сокіх нагах, буйнога заводу, з такою-ж белаю лапінаю на ўвесь лоб, як і ў Арапкі. Гледзячы на яго манэру трыманьня, можна было ўпэўнена сказаць, што гэта быў неразумны, просты, хатні сабачка. Ён аблізаў сваю пакамечаную, параненую сьпіну і, як нічога з ім і ня было, замахаў хвастом і забрахаў на ваўчыху. Ваўчыха завыла пасабачаму і пабегла ад яго. Ён за ёй. Яна азірнулася і заляскала зубамі: ён застанавіўся ў зьдзіўленьні і, мабыць, парашыў, што ваўчыха толькі забаўляецца з ім, падняў сваю морду ў напрамку да хаты і заліўся звонкім радасным брэханьнем, нібы запрашаючы гэтым сваю матку, Арапку, падурэць з ім і ваўчыхаю.

Ужо разьвідневалася, і калі ваўчыха прабіралася да свайго бярлогу густым асіньнічкам, то ўжо можна было выразна бачыць кожную асінку, і ўжо абуджваліся цецярукі. „Чаго гэта ён бяжыць за мною?“ думала ваўчыха са злосьцю. „Мабыць, ён хоча, каб я яго зьела“... Жыла яна з ваўчанятамі ў няглыбокай яме; гадоў са тры таму назад, у часе вялікай буры, вывернула з карэньнем высокую старую хвойку, і на гэтым месцы ўтварылася яма. Цяпер на дне яе былі старыя лісты і мох, тут-жа валяліся косьці і рогі быкоў, з якімі забаўляліся ваўчаняты. Ваўчаняты ўжо прачнуліся і ўсе ўтраіх, вельмі падобныя адно на другое, стаялі на краі свае ямы і маталі хвастамі, як заўважылі матку. Убачыўшы іх, сабачка прыпыніўся непадалёку і доўга глядзеў на іх. Заўважыўшы, што яны таксама ўважліва глядзяць на яго, сабачка пачаў брахаць на іх сярдзіта, як на чужых.

Ужо разьвіднелася і ўзышло сонца, заблішчэў кругом сьнег, а сабачка стаяў ля іх і брахаў. Ваўчаняты ссалі сваю матку, пхалі яе лапамі ў галодны жывот, а яна ў гэты час грызла конскую костку, белую і сухую, і яе мучыў голад, галава разбалелася ад сабачага брахапьня. Ёй хацелася кінуцца на назойлівага няпрошанага госьця і разарваць яго.

Урэшце, сабачка стаміўся і ахрып. Бачачы, што яго не баяцца і нават не зьвяртаюць на яго ўвагі, ён пачаў нясьмела, то прысядаючы, то падскокваючы, падыходзіць да ваўчанят. Цяпер, пры сьвеце дня, лёгка ўжо было разглядзець яго... белы лоб у яго быў вялікі, а на лбе выпучына, якая бывае ў вельмі дурных сабак; вочы яго былі маленькія, блакітныя, цьмяныя, і выгляд морды здаваўся таксама дурным. Блізка падышоўшы да ваўчанят, ён выцягнуў наперад шырокія лапы, палажыў на іх морду і пачаў: „Мня, мня... та-та-та!“

Ваўчаняты нічога не зразумелі, але заматалі хвастамі. Тады Белалобы выцяў лапаю адно ваўчанё па вялікай яго галаве. Ваўчанё выцяла таксама сабачку па галаве. Белалобы стаў да яго бокам і паглядзеў на яго скоса, памахваючы хвастом. Пасьля раптам рвануўся з месца і зрабіў некалькі кругоў ля бярлогу. Ваўчаняты пагналіся за ім. Белалобы паў на сьпіну і задраў уверх ногі, а ваўчаняты ўтраіх напалі на яго і, скавычучы ад радасьці, пачалі кусаць яго, але не сапраўды, а дурэючы. Вароны сядзелі на высокай хвойцы, глядзелі зьверху на іх барацьбу і вельмі баяліся за яе вынік. Стала шумна і весела. Сонца прыпякло па веснавому.

Звычайна ваўчыхі прывучваюць сваіх дзяцей да паляваньня на жывёл, даючы ім пагуляць з здабычаю старой ваўчыхі, і цяпер, гледзячы, як ваўчаняты ганяліся за сабакам, вялі з ім барацьбу, ваўчыха думала: „Няхай прывучваюцца“.

Нагуляўшыся, ваўчаняты пашлі ў яму і леглі спаць. Белалобы паскавытаў трохі з голаду, пасьля таксама выпрастаўся на сонцы. А як прачнуліся, ўсе пашлі ў яму і пачалі гуляць. Увесь дзень і ўвечары ваўчыха ўспамінала, як у мінулую ноч у хляве бляяла ягнё і як пахла авечым малаком, і ад апэтыту яна ўсё ляскала зубамі й не пераставала грызьці ў смак старую костку, ўяўляючы сабе, што гэта ягнё. Ваўчаняты ссалі ваўчыху, а Белалобы, які хацеў есьці, бегаў кругом і абнюхваў сьнег. „Зьем яго"... парашыла ваўчыха.

Яна падышла да яго, а ён лізнуў яе ў морду і заскавытаў, думаючы, што ваўчыха хоча падурэць з ім. У маладосьці сваёй яна ела сабак, але ад Белалобага моцна пахла псінаю, і, па слабасьці здароўя, яна ўжо не магла цярпець гэтага паху; ёй зрабілася няпрыемна ад яго, і яна адышлася. К ночы пахаладнела. Белалобы засумаваў і пашоў дамоў.

Калі ваўчаняты моцна заснулі, ваўчыха ізноў пашла шукаць сабе чаго-небудзь, каб пажывіцца. Як і ў мінулую ноч, яна пужалася нязначнага шуму, пнёў, дроў, кустоў, якія здалёку выглядалі жывымі людзьмі. Яна бегла ў баку ад дарогі. Раптам наперадзе на дарозе замітусілася нешта цёмнае... Ваўчыха пільна прыгледзілася і прыслухалася: сапраўды, нешта йшло наперадзе і чутны былі разьмерныя крокі. „Ці не барсук?" Яна асьцярожна ледзь зводзячы дух, абягаючы ўсё ў бок, выперадзіла гэтага незнаёмага госьця, азірнулася і пазнала яго. Гэта, не сьпяшаючыся, пяшком, ішоў дамоў Белалобы. „Каб хаця ізноў не перашкодзіў мне ён", падумала ваўчыха і хутка пабегла наперад. Але хата была ўжо блізка. Ваўчыха ізноў залезла на хлеў па гурбе. Учарашняя дзірка была ўжо залатана яравою саломаю і зьверху прывязана двума новымі пераплеценамі.

Ваўчыха пачала хутка раскідаць страху нагамі і мордаю, аглядаючыся ці ня йдзе сабачка. Але толькі пачула яна цёплую пару і пах гною, як ззаду радасна працяжна забрахаў сабачка. Ён скочыў да ваўчыхі на страху, пасьля ў дзірку і апынуўся ў сябе дома; пазнаўшы сваіх авечак, забрахаў яшчэ мацней...

Арапка прачнулася пад хлявамі, пачуўшы ваўка, завыла, закудахталі куры... І калі на ганку паказаўся Ігнась з сваёй аднастволкаю, то перапалоханая ваўчыха была ўжо далёка.

— Фюйць!—засьвістаў Ігнась—фюйць! Гані на ўсю пару!

Ён спусьціў курок—стрэльба дала асечку, ён спусьціў яшчэ раз—ізноў асечка, ён спусьціў трэці раз, і вялікі вогнены сноп вылецеў з ствала, а за ім трэснула—бу! бу! Яму моцна стукнула ў плячо, і, узяўшы ў адну руку стрэльбу, а ў другую сякеру, ён пашоў паглядзець ад чаго шум. Трошкі пачакаўшы, ён зьвярнуўся да хаты.

— Што там?—запытаўся ў яго хрыплым голасам падарожны, які начаваў у яго і прачнуўся ад такога шуму.

— Нічога — адказаў Ігнась: — пустая справа. Унадзіўся наш Белалобы з авечкамі спаць у цяпле. Толькі не разумее таго, каб праз дзьверы йсьці, а наровіць усё праз страху. Надоечы ўночы раскідаў страху і гуляць пашоў, сьцерва, а цяпер зьвярнуўся і зноў раскідаў страху.

— Дурны!..

— Так, спрунжына ў галаве пэнкнула. Страх ня люблю дурных! - уздыхнуў Ігнась лезучы на печ.—Ну, браце, рана яшчэ ўставаць, давай спаць поўным ходам...

А раніцаю ён паклікаў да сябе Белалобага, добра высьцябаў яго за вушы і пасьля хварасьцінаю, прыгаварваючы: „Хадзі праз дзьверы! Хадзі праз дзьверы! Хадзі праз дзьверы!"







# Дзед і мядзьведзь.

I

Кажа дзеду баба:
— Дзеду! з хлебам слаба:
Едзь у млынь ты, дзедка!—
Млын ня страшан дзеду:
— Трэба, дык паеду,
Бабка, мая кветка!
Дык гатуй сьняданьне—
Менш завозу зраньня,
Справа бач такая.—
Паліць баба ў печы,
А дзед грэе плечы,
Сьняданьня чакае.

II

Скавародка
Ходзіць лётка,
Спрытна ў бабіных руках.
Тыя-ж дровы
Роняць словы:
„Трах-та-тах“! ды „трах-та-тах“!
Скваркі ў печы
Штось да рэчы
Шэпчуць тэй скаварадзе.
А старэчы
Каля печы
Ім і сам у тон гудзе.

III

Дзед пасьнедаў ёмка,
Нават ікнуў громка.
Вось прыбраў наш дзед калёсы,
Колы дзёгцем квацануў,
Нацягнуў тужэй атосы,
Шчыльна загваздкі заткнуў.
І мяшкі паклаў дзядуня—
Дужы дзед быў і здароў,
Па каня паволі суне,—
Дзед гарачкі не пароў.
А была-ж у дзеда
Кабыліца гнеда,
Белагрывая,
Памаўзьлівая.

IV

Вышаў дзед, кабылу кліча:
—„Кось-кось-кось“! ды „кось-кось-кось“!
Выган, гай прашоў наскрозь,
Бо кабылкін ведаў звычай.
Эх, кабылка, воўча мяса!
Ну, і шкодніца-ж яна!
Так і шворыцца адна,
Лезе ў шкоду самапасам,
А бадай-жа цябе качкі!
Трэба ў млын, яе-ж няма!
Час той зводзіцца дарма
З-за кабылкі, з-за лайдачкі.
Дзед ідзе, а цемнавата.
Зірк—у грэчцы ходзіць штось.
„Знаю нораў твой, нябось,
І натуру твайго брата!
Пачакай-жа, памаўзоха:
Патравіла грэчку троха!“
Скраўся дзед і—хоп за грыву!
Ды вярхом і ў бок—штурхець...
Як раўне-ж пад ім мядзьведзь!
Як памчыць ў лес праз ніву!
Як задасьць ён ла-та-та!
Прэ мядзьведзь наўскапыта.
А дзед бедны—дух у пятах,
Ушчарэпіўся за хіб,
Зьвера пынячы ахрып:
„Тпррр, спыніся! стой пракляты!
Тпру, мядзьведзік! Бэч, мядьзведзь“!
А мядзьведзь—цялеп—кульгець,
Толькі мордаю трасе,
Дзеда ў лес імчыць-нясе!

V

І набраўся-ж страху
Дзед з сваім мядзьведзем!

Гэтак даў ён маху—
Сьмех сказаць суседзям!
Беглі ельнякамі,
Біўся лес сукамі,
А галінкі-лапкі
Зьбілі дзеду шапку,
Аб бярозку-вітку
Разадраў дзед сьвітку,
Аб той пень дубовы
Гуз набіў здаровы.
Бачыў лес пацеху,
Дзеду-ж не да сьмеху.
Пазіраў з бярлогу
На іх вепр іклаты,
Уступаў дарогу
Ім сам лось рагаты;
Цокала віёрка
Ад такога дзіва,
Нават воўк з узгорка
Лыпнуў вокам скрыва.
А як зайчык згледзіў
Дзеда на мядзьведзі,—
Ад тэй небясьпекі
Рынуўся наўцекі.
Злодзей, тхор-выжыга,
Толькі выскаляўся,
А лісок, псялыга,
Со сьмеху качаўся:
„Ой, зьвяры, вы, мае братцы!
Памажэце мне сьмяяцца!“
Гасаў мядзьведзь, гасаў,
Насіў дзядка, насіў,
Аж сам сябе кусаў,
На ўвесь лес галасіў.
Зачапіўся лапцем дзед
Ды аб патарчаку,
Адчыніўся тады сьвет
Дзеду-небараку:
Выпусьціў мядзьведзя з рук,
Гопнуўся, завохаў,
Расьцягнуўся, бы япрук,
На зялёным моху.

VI

Прышоў дзед да хаты
Ціхі, вінаваты,
І спытала бабка:
„А дзе твая шапка?



Ой, ты, дзед-дурыла:
У хляве кабыла!
Дык вазьмі-ж за нораў—
Не хадзі за горы,
А перш каля носу
Пашукай ты лёсу!“

**Якуб Колас.**



# Апавяданьне дзеда Апанаса.

— Дзедка, а дзедка, скажы, чаму вунь там ля рэчкі, на тым грудочку такія ямы; там цэгла і каменьні, і ўсё гэта зьмешчана ў розныя кучы?

Дзед Апанас, сеўшы ля хлапцоў-пастушкоў, якіх вельмі цікавіла ўсё тое, што там ляжала, пачаў:




— Вось, дзеткі, ня так даўно, здаецца, ужо пашоў пяты год з таго часу, калі там, на гэтым грудочку стаяла невялікая вёска. Людзі жылі там бедна; зямлі ў іх было мала. А вось паглядзеце, вунь там стаяць клёны, дубы, грабы і ліпы—бачыце?

— Бачым, бачым, дзядулька,—адказалі дзеці.

— Вось і там таксама цяпер, як і тут, ляжаць каменьні й цэгла. Там былі палацы пана Магдановіча. Дык вось слухайце. Гэты пан быў вельмі кепскі чалавек. Жыць сялянам пры ім было вельмі цяжка: забяжыць бывала карова ў збожжа—наложыць вялікі штраф, назьбірае хто-небудзь гальля ў лесе—ізноў плаці.

— І вось дзеткі, як пачаўся рабочы і сялянскі рух, а гэта было, як я раней казаў, ужо гадкоў пяць таму назад, а можа і болей,—прызнацца, добра ня ведаю: стары я ўжо, зьбіўся з рахунку...

— Дзедка, гэта-ж, здаецца, рабочыя і сяляне паўсталі ў семнаццатым годзе.

— Вось, вось, здаецца, што так. Ну, дык вось. Як пачулі сяляне пра гэту рэволюцыю, пра новую ўладу, дык узялі спалілі гэты маёнтак і забілі самога пана, а зямлю падзялілі паміж сабой. Сын-жа пана ўцёк у Польшчу. Сяляне тады, падзяліўшы між сабою ўсё панскае багацьце, пачалі трохі лепей жыць, ня гледзячы на тое, што плацілі падаткі; ды якія там падаткі, ня тое прыходзілася плаціць даўней пану! І яшчэ раз скажу вам, дзеткі, што зрабілася лепей жыць ня толькі грудоўцам, але наогул усім сялянам, якія вызваліліся ад улады паноў... Ну, дзеткі, мо' ўжо хопіць. Пара гнаць скаціну дамоў.

— Дзядулька, дзядулька, яшчэ трошкі раскажы...

— Не, хлопчыкі, лепш другім разам. Як прыгонім ізноў сюды пасьвіць, дык і раскажу тады. Яшчэ шмат чаго ёсьць пра гэту мясцовасьць апавядаць.

І дзед Апанас, махнуўшы доўгай пугай, загукаў:

— Асюды! Дамоў пашлі, цялушкі!

Пацягнуліся высокія цені ад пастухоў і кароў побач дарогі. Хлапцы йшлі разам з дзедам і маўчалі ў задуменасьці. Толькі раз-по-раз гукалі: „Куды, раба! куды, падласа!“

Гэтакім парадкам прыгналі яны дамоў свой стадак. Пазаганяўшы кароў у хлявы, хлапцы парасходзіліся па сваіх хатах. У кожнага з іх паўставала пытаньне: а што было далей там?..

* *

— Го, го, хлапцы, хай ходзяць! Хадзеце агню разложым!

Хлапцы жыва падбеглі, назьбіралі сучкоў, і ўжо праз некалькі хвілін шугаў угору невялічкі агоньчык. Штосьці нудна пачынае памаленьку стары бор шумець, бо чуе, што ўжо хутка прыдзе восень, ападзе лісьцё, а там—і зіма.

Паадварочвалі хлапцы кароў і паселі ля агню.

— Дзядулька, памятаеш, як ты казаў пра гэтыя груды.

Дзед Апанас, падумаўшы трохі, паглядзеў на груды, дзе калісь красавалася вёска.

— Помню, помню, дзеткі. Ну, раскажу трохі.

Дзед кашляў, бо быў ужо стары, пражыў свой век і шмат у сваім жыцьці чаго перажыў.

— Ну, вось. Я-ж вам ужо казаў, што як утварылася Савецкая ўлада, дык усе багатыя паны паўцякалі ў Польшчу. Пасьля гэтага пашлі сумныя весткі, што йдуць палякі; а гэта, значыцца, і панская ўлада разам з імі йдзе.

Некаторыя людзі радаваліся,—вядома, багацейшыя,—а бяднейшыя казалі, што йзноў будуць прыцiскаць сялян.

Гэтак і было. Наша Чырвоная армія была тады даволі беднай; былі жаўнеры босыя, галодныя і кепска ўзброеныя. Дык слухайце-ж. Прышлі палякі. Многа, многа польскіх жаўнераў ішло тудою, — і дзед паказаў рукою туды, дзе калісь была вёска. — Ішлі. Коняй і сялян бралі ў абоз, і дзяцей і старых білі бізунамі, а што рабілі з дзяўчатамі!.. Успомню — сэрца баліць... Ну, але гэта ўсё нічога; нашы людзі і ўвесь бедны люд здаўна прывык цярпець, і ён цярпеў да пары!



Вось вярнуўся той паніч, які ўцёк адгэтуль, — паказаў дзед на руіны, дзе быў панскі маёнтак. — Ну, вярнуўся, але далей што... А ці вы, дзэткі, ведаеце, што значыць слова вярнуўся, з цэлым войскам вярнуўся. І вось пачалося, што называецца, панскае ігрышча. Гуляў бізун. Білі людзей, асабліва маладых, якія не маглі стрымаць падчас усіх зьдзекаў паноў, не маглі стрымаць таму, што кроў маладая больш гарачая, чымся старая.

І вось, пачалі нашы хлапцы ўцякаць у лес, хавацца ў яго таемных гушчарах. Яны называліся паўстанцы. Паўстанцы ня спалі, яны праводзілі свае справы. Яны аб'ядналіся і ўсё болей і болей нападалі на невялічкія гурткі польскіх жаўнераў. Пасьля прагналі адгэтуль тых панскіх зладзеяў.—

Дзед гаварыў. На яго твары выяўлялася нейкая злосная ўсьмешка

— Цяпер у нас Савецкая ўлада, якая клапоціцца аб бедных сялянах.

Пасьля дзед запытаўся:

— Ну, а як-жа вам шкода тых людзей, якія загінулі ў той час?

— Шкода, шкода!..

— Дык вучэцеся, хлопчыкі, каб і вы былі такімі, як ёсьць некаторыя правадыры, напр., наш настаўнік Ленін. Чулі вы аб ім?

— Чулі, чулі!—адказалі дзеці.

— Ну вось, дзеткі.

Хлопцы яшчэ доўга пераглядаліся, быццам чаго чакалі.

— Як хараша тут цяпер! Але зараз пагонім,—сказаў адзін з іх.

Ізноў паўсталі высокія цені і пашлі памаленьку. Ізноў заходзіла сонца, раскідаючы астатнія іскры праменьняў у блакітным акіяне паветра. З ціхім, ціхім сьпевам вецер кінуўся на ўзгорак і замёр сярод каменьня і цэглы.

**В. Дамарацкі** (14 гадоў).

* * *

Па новаму шляху, да лепшых дзён
Мы піонэрыя—
Ідзём. .
Ідзём сталёваю гурбой.
За комунізм—
Цьвёрда стой!

Пад сьцягам чырвоным,
Грыміць барабан:—
Гэй, да комуны,
Гэй, піонэрыя—
Дзеці рабочых, сялян!

Хутка збудуем мы радасьць жыцьця...
Станем-жа ўсе
Пад юнацкі свой сьцяг.

Гэй, бі мацней
Наш барабан.
Мы піонэрыя—
Дзеці рабочых, сялян!

**Т. Хадкевіч.**

---

**2. Піонэр—малодшы брат і памоцнік комсамольцу і комуністаму.**

**3. Піонэр—таварыш піонэрам, рабочым і сялянскім дзецям усяго сьвету.**




*(Малюнак)*

Міколку было шэсьць гадоў, калі ён застаўся сіратою. Матка яго яшчэ перад вайной працавала ў пэна. Але цяжкая праца ёй была не па сіле: яна захварэла на сухоты і памерла. Бацька Міколкі, у часы змаганьня за ўладу працоўных, быў забіты панамі.

Застаўся Міколка круглай сіратой. Сяляне гэтай вёскі шкадавалі Міколку і парашылі дапамагчы яму: яны зрабілі агульны сход, на якім паставілі пытаньне аб тым, каб хто-небудзь узяў Міколку да сябе, да той пары, пакуль ён самастойна здолее зарабіць сабе кавалак хлеба.

І вось знашоўся такі чалавек, які згадзіўся яго ўзяць.

Але гэты чалавек быў надта благі: ён толькі глядзеў, каб Міколка цэлы дзень, з раньня да вечара, працаваў. Адзяваў ён Міколку кепска і вучыцца ня пускаў.

Міколка быў хлапчук разумны, ён сам праз сябе навучыўся чытаць і пісаць. Міколку даўно цягнула ў школу. Аднаго разу ён прачытаў у газэце, што ў горадзе ёсьць дзіцячая арганізацыя, якая носіць назву піонэрскай. І пасьля таго Міколку захацелася таксама быць піонэрам. Ён пачаў думаць над тым, як выбраць яму добрую хвіліну і ўцячы ў горад...

* * *

Падвечар мароз пачаў мацнець. Мяцеліца яшчэ горш разгулялася. Дарога, якая доўгай зьмейкай бегла праз бор, была занесена сьнегам.

Па дарозе праз гурбы сьнегу ішоў хлопчык. Гэта быў Міколка... Ён уцёк ад свайго гаспадара і ішоў у горад, куды яго даўно цягнула. На Міколку быў старэнькі, палатаны кажушок. На нагах былі лапці з доўгімі, тоўстымі аборамі, якія даходзілі яму да кален. На галаве была вялікая шапка, якая налазіла яму на вушы. Па твары Міколкі можна было пазнаць, што ён ідзе ўжо даўно і вельмі змарыўся. Яго ногі і рукі балелі, ён ня мог ісьці далей і, упаўшы на сьнег, заплакаў...

Шум хвой, елак і жалобны сьвіст завірухі з кожнай хвілінай усё болей і болей рос, узмацняўся, пераходзячы ў адзін мяшаны гул, які разносіўся па лесе...

Раптам апанаваў Міколку вялікі страх. Яго маленькія чорныя вочкі пачалі востра шчупаць цемру зімовай ночы, там ён пабачыў два зялёных аганькі, якія то прападалі, то зноў зьяўляліся ў цемры ночы.

Міколка ведаў, што гэтак сьвецяцца вочы ваўкоў. Ён хацеў усхапіцца і лезьці на дрэва, але яго ногі і рукі былі скарчанеўшымі. Ён хацеў крычаць, але ня мог...

Аганькі ўсё бліжэй і бліжэй падыходзілі да Міколкі.

* * *

Пад раніцу мяцеліца сьціхла. Мароз зьменшыўся. Па дарозе доўгім шнурам пацягнуліся падводы на рынак. Сяляне ўжо выехалі з лесу, калі да іх даляцела звонкая брахня сабакі. Сялян зацікавіла, хто-б гэта мог быць у такі час у лесе... Яны пасаскаквалі з саней і пашлі ў той бок, адкуль чуўся брэх. Зьвярнуўшы трохі з дарогі, сяляне праз некалькі хвілін пабачылі, што на сьнягу ляжаў хлапчук, а каля яго стаяў сабака. Гэта быў Міколка. Ён быў яшчэ жывы. Сяляне аднесьлі яго на сані і добра ўкрылі...

Ужо пачало разьвідняцца, як яны прыехалі ў горад, дзе аднесьлі Міколку ў бліжэйшы дзіцячы прытулак...

Праз некаторы час Міколка прачнуўся і быў вельмі зьдзіўлены, убачыўшы, што яго цесна абступаюць тыя дзеці ў чырвоных гальштуках, аб якіх ён раней ня раз марыў.

Піонэр **М. Барысэвіч.**

# ПА АТРАДАХ І ШКОЛАХ.



## Адказ на допіс аб дукорскім атрадзе.

У часопісі „БП“ № 11 быў зьмешчаны допіс аб нашым атрадзе пад назвай „Ніякай працы не вядзецца“. Мы можам сьмела адказаць, што тав. Горан памыляецца. Праўда, за летні час праца праводзілася ня так стала, як зімою, затым што большая частка піонэраў разышлася па вёсках. Зразумела, што гэта не давала магчымасьці часта праводзіць зборы, і мы зьбіраліся 2 разы ў месяц. Але ня гледзячы на гэта праца ўсё-ж вялася. У клюбе было шмат рэчаў, якія рабілі самі піонэры. як сякеры, граблі і г. д.

Апрача гэтага, ёсьць шмат літаратуры, выдаецца насьценная газэта на трох мовах: беларускай, расійскай і яўрэйскай.

Далей, наш атрад рабіў экскурсіі, праводзіў гутаркі і вечары разам з гарадзкім атрадам, які прабыў у нас 2 месяцы.

З восені зборы пачаліся часьцей, і праца пашла належным крокам.

З кожным днём наш атрад расьце. У сучасны момант ён налічвае ў сваіх шэрагах 60 піонэраў.

**Куніцкі.**

## Сувязь між атрадамі.

(*Магілеў*).

Атрады паміж сабой трымаюць добрую сувязь, праводзяць сумесныя сходы, заняткі зьвеньняў.

Дысцыпліна ў атрадах значна палепшала.

Толькі кепска, што не праводзіцца культурна-асьветная праца, таму што ня маем клюбу.

**А Сімон.**

## Мы ў клюбе... жывём.

Ой, няласкава сонейка грэе,
Бо панурая восень стаіць.
Ўсе сабраліся тут на дварэ мы
Каб аб справах сваіх гаманіць.

Ўлетку слаўна было на прывольлі,—
Ўсё ў прыродзе насустрач нам йшло.
Ў сенажацях, лясох і на полі
Нашым сонцам чырвоным цьвіло.

Ўспамінаюцца тыя малюнкі
Залатых зачарованых дзён.
Устаюць зноў пытаньні у думках:
Ах, калі яны вернуцца зноў.

А цяпер глянь, зусім, брат, ня тое
Што нядаўна пад сонцам цьвіло,
Нават сонца нябёс залатое
Недзе згінула з радасьцю слоў...

Але ў вёсцы ёсьць добрыя людзі,
Шмат у вёсцы ёсьць добрых сялян;
Іх ніколі атрад не забудзе
За прыхільнасьць да нас.

І адзін вось такі ў сваёй хаце
Адпусьціў нам каморку пад клюб.
Колькі радасьці!.. Нават у хаце
Ўсе крычалі, што—дзядзьку люблю.

Жыва праца і там загарэлася
Песьня вольным забіла руччом.
Недзе восень, бо сонца ня грэе,
Але што нам?!—Мы ў клюбе... жывём!

Піонер **Т. Хадкевіч.**

# Наша праца ў школе.

*(М. Шацк атр. імя Калініна).*

Усю працу ў школе вядзе атрад. Большая частка ў вучкоме і розных камісіях— піонэры, якія па ўказаньні атраду вядуць працу. Сувязь паміж піонэрамі і настаўнікамі добрая.

**Мацкевіч.**




# Так няправільна.

*(Магілеў).*

У першай школе зрабілі пастанову, калі вучань спазьніўся на першую лекцыю, то ня трэба пускаць яго і на ўсе апошнія лекцыі.

Гэта вельмі кепска адбівалася і адбіваецца на разьвіцьці вучняў у навуковай галіне.

Трэба было над гэтай пастановай раней добра падумаць, а тады ўжо праводзіць у жыцьцё.

**Мышкоўскі.**

# Праца наладзілася.

*(В. Багушэвіча. Бярэзінскага раёну).*

Наш атрад існуе адзін год. За гэты час ім праведзена шмат карыснай працы, як, напрыклад: вышла 9 нумароў насьценнай газэты „Вясковы піонэр“, у якой піонэры прымаюць актыўны ўдзел, пішуць аб сваім жыцьці, працы і недахопах, якія маюцца ў атрадзе.

За гэты-ж час было пастаўлена сіламі піонэраў 6 вечароў для вясковых дзяцей і сваіх бацькоў.

**А. Багамаз.**

# Шэф, дапамажы!

*(Гасьцілавіцкі атрад імя Ігнатоўскага).*

Доўга мы чакалі, калі ў нас будзе шэф Напасьледак над нашым атрадам узяло шэфства Лагойскае сельска-гаспадарчае крэдытнае таварыства. Ня гледзячы на тое, што атрад працуе ў вельмі дрэнных абставінах, ня маючы свайго клюбу, сьцягу і барабану шэф мала зьвяртае ўвагі. Можна значна больш дапамагчы ў працы атраду шэфу.

**В. Зарэмба.**

# Сувязь з Чырвонай арміяй.

*(Менск, 54 атрад).*

Узмацняецца сувязь нашага атраду з Чырвонай арміяй. Прадстаўнікі ад падшэфнага эскадрону прысутнічаюць на сходах атраду і цікавяцца нашай працай.

Наладзілі перапіску карэспондэнцыямі насьценныя газэты. Нядаўна адбылася экскурсія ў 38 полк.

**І. Зэльцар.**

# Няма пастаяннага клюбу.

*(М. Капыль. 14 атрад).*

Наш атрад выпусьціў 14 нумароў насьценнай газэты. Рэгулярна выпісваем часопісі, газэты і чытаем кнігі. Толькі кепска тое, што няма пастаяннага клюбу, чым падрываецца сталая праца.

**А. Баравік.**




Працуем бяз клюбу.

## Няма павадыра.

*(Калінінская акруга).*

У нас, у цёмным лесе, на лесапільным заводзе з першых дзён траўня організаваўся атрад юных піонэраў імя Томскага.




Працуйце!!!

Атрад працуе кепска, бо ня мае добрага павадыра. Павадыр, які прыехаў да нас з гораду, зрабіў толькі тое, што выбраў чатырох комсамольцаў і сказаў ім „працуйце“, а сам і носу не пакажа.

Час ідзе, а мы застаемся без павадыра.

**А. Часнык.**

## Наша сувязь з вёскай.

*(Магілёў, 5 атрад).*

Трымаючы шэфства над 43-м грудзінаўскім атрадам, наш атрад зрабіў 5 выездаў у вёску. Мы дапамаглі атраду набыць сьцяг, літаратуру і гальштукі.

Апрача гэтага, дапамаглі ў выданьні насьценнай газэты, праводзілі гутаркі на розныя тэмы.

Цяпер мы вядзем з атрадам перапіску і шляхам лістоў абменьваемся думкамі.

**В. Казанавер**

## Часта зьмяняюць павадыроў.

*(м-ка імя Леніна Слуцкага р.).*

Некаторыя ячэйкі комсамолу, не бяручы пад увагу, што ад павадыра залежыць уся праца атраду, мяняюць вельмі часта павадыроў ды яшчэ, бывае, вылучаюць такіх, у якіх ёсьць 5 або 6 абавязкаў.

Напрыклад, возьмем Ленінскую ячэйку. За ўвесь час існаваньня піонэрскага атраду (а ён існуе з 1 жніўня) зьмянілася 5 павадыроў.

Бывае часта, што новы павадыр ня ведае піонэрскага руху і затым ставіць кепска працу.

**Е. Наст.**

## Піонэрскія.

Над далінаю туман,  
Плачуць ціха вольхі;  
Песьняў сёньня ня стрымаць  
Піонэраў вольных.

Сэрца кожнае—агонь,  
Сэрца гульні любіць.  
Мы прагналі ўсіх багоў,  
А цяпер—у клюбы.

Ў клюбах песьняў буйны рад,  
Радасьць б'е бяз меры;—  
Атрымаў вось наш атрад  
Сёньня „Піонэра“.

Над далінаю туман,  
Плачуць ціха вольхі;  
Радасьць сёньня ня стрымаць,  
Піонэраў вольных.

———




## Дрэнны прыклад.

*(м-ка Шацк, атрад імя Калініна).*

У нашым атрадзе памоцнік павадыра атраду дае вельмі кепскія прыклады піонэрам: пры піонэрах гуляе з дзяўчатамі, лаецца кепскімі словамі, а, апрача гэтага, ніякай працы ў атрадзе не вядзе. Калі яго назначылі загадчыкам піонэрскага клюбу, ён адмовіўся.

Так ня добра. Трэба, каб памоцнік павадыра ў працы быў прыкладам для піонэраў.

**Чырвоны гальштук.**

**Піонэр праўдзіў справе рабочае клясы—заветам Ільліча.**

## Ш э ф.

*(Старобін).*

Цэлы год наш атрад ня меў свайго шэфа. Толькі цяпер Старобінскае коопэрацыйнае таварыства „Змычка“ ўзяло над намі шэфства. З гэтага часу праца пашла добра. Шэф купіў нам барабан і знашоў клюб.

**Ляўковіч і Старобін.**



## Чытаем кнігі.

*(5 атрад, м-ка ім. Леніна).*

Наш атрад імя Крупскай мае 300 кніжак. Піонэры кожны дзень бяруць кніжкі і чытаюць.

**Мацкевіч.**

## Хто вінаваты?

*(м-ка Семіелава Чыр.-Слабодзкага р.).*

Наш атрад на агульным сходзе пастанавіў выпушчаць кожны месяц насьценную газэту. Пастанавілі, але за дзесяць месяцаў выпусьцілі толькі тры нумары.

**Фыліна.**

# Аб акцябратах.

У мінулым нумары мы казалі аб тым, што павінны рабіць акцябраты ў сваёй групе, але павадыр групы можа сказаць: „Я ведаю, што нам трэба рабіць, але для мяне ня зусім зразумела, як праводзіць тую ці іншую працу“, і вось у гэтым артыкуле мы хочам пагутарыць, як павінна працаваць група акцябрат.

У кожнай організацыі ёсьць кіраўнічы орган, які кіруе ўсёй працай. Так, напрыклад, у комсамольскай ячэйцы ёсьць бюро ячэйкі, у атрадзе піонэраў—савет атраду.

У групе акцябрят таксама павінен быць кіраўнічы орган. Гэта савет групы.

### Савет групы.

Аднэй з галоўных задач савету групы зьяўляецца распрацоўка заданьняў па зьвеньнях. Яго праца павінна быць пабудавана так, каб павадыр зьвяна, прыходзячы з сходу савету групы, мог ведаць, што і як яму неабходна рабіць у сваім зьвяне. Савет групы зьбіраецца раз у 2 тыдні і разьмяркоўвае плян працы групы. Пасьля чаго кожнаму зьвяну даецца тое ці нш'ае заданьне.



Калі праца будзе разьмяркована паміж зьвеньняў, трэба, каб усё тое, што павінна рабіць зьвяно, было ясна кожнаму павадыру зьвяна. Таму трэба тут-жа вывучыць песьню, дагаварыцца, якую частку працы бярэ на сябе кожнае зьвяно.

Апрача гэтага, савет групы павінен даваць падрабязныя ўказаньні аб тым, як трэба ў далейшым працаваць.

Савет групы павінен цягнуцца ня больш як паўтары гадзіны, ня трэба яго перакручваць у паседжаньне, ён больш усяго павінен зьяўляцца школай для падрыхтоўкі павадыроў зьвеньням. Калі зьвяно хоча, што-небудзь самастойна зрабіць, трэба раней аб гэты гагаварыцца з павадыром групы, або на савеце вырашыць ці патрэбна праводзіць гэтую працу.

### Збор групы.

Збор групы трэба праводзіць адзін раз у тыдзень. Дзе гэта немагчыма, можна праводзіць 2 разы у 3 тыдні. Гэта залежыць ад тых абставін, у якіх знаходзіцца група акцябрат. На зборы групы неабходна праводзіць лёгкія гутаркі на якую-небудзь цікавую для дзяцей тэму.

### Збор зьвяна.

Зборы зьвяна трэба праводзіць адзін раз у 2 тыдні. Зьвяно развучвае песьню, дапамагае маляваць плякаты піонэрам і г. д.

Уся праца павінна быць добра ўзята на падлік для таго, каб да канца якога-небудзь пэрыоду, можна было гаварыць аб ўсёй зробленай працы. Апрача гэтага павадыр павінен мець у сябе сьпіс акцябрат яго групы і заўсёды даглядаць за ўсім тым, што робяць акцябраты, бо сярод дзяцей бываюць няшчасныя выпадкі, калі акцябронак бяз догляду куды небудзь залезе.



Вось аб гэтым сёньня мы і хацелі пагутарыць. Трэба, каб кожны павадыр групы напісаў нам ліст і абмяняўся вопытам яго працы.

**Міхась.**



## Ой вы, хлопцы-малайцы.

(П е с ь н я).

Ой вы, хлопцы-малайцы—
Піонэры удальцы.
Гэй, гэй, аха-ха—
Піонэры удальцы!
Сабірайцеся ў атрад
На вялікі наш парад.
Гэй, гэй, аха-ха... і г. д.
Пойдзем, пойдзем у свой клюб,
Кінем, хлопцы, мы гульню!
Гэй, гэй, аха-ха...
Будзем кніжкі там чытаць,
Свае песенькі сьпяваць!
Гэй, гэй, аха-ха...
Прыдуць к нам у клюб бацькі
Ї дзяўчаты й дзяцюкі.
Гэй, гэй, аха-ха...
Мы раскажам ім усім
Пра наш юны вольны Кім.
Гэй, гэй, аха-ха...

**А. Ч.**

# Фізкультура і моладзь.

Дзьве асноўныя задачы стаяць цяпер перад нашым працоўным Саюзам: будаваць комуністычны будынак і абараняць першую ў сьвеце Рэспубліку Працы ад нападу буржуазных суседзяў.

І каб будаваць комуністычны будынак, і каб абараняць соцыялістычную бацькаўшчыну, патрэбны цьвёрдыя, моцныя рукі: ня лёгкая тая і другая задача ў капіталістычным абкружэньні, і толькі моцны сьвядомасьцю, воляю, мускуламі будаўнік і абаронца здолее яе выпаўніць.

А рэжым цара і капіталістых падточваў народную сілу. Масавыя эпідэміі не прыпыняліся на Русі. Сьмяротнасьць была такой вялікай, як ні ў аднэй старонцы Эўропы. Жыхарства, асабліва сялянскае, жыло ў самых немагчымых умовах: у цемнаце, гразі, няпісьменнасьці. Жыхарства выраджалася, а месцамі вымірала.

Такую спадчыну мы атрымалі ад цара, капіталістых, меншавікоў і эсэраў. І ясна, што такімі рукамі моцны комуністычны будынак ня збудуеш, што штыкі ў такіх руках лёгка выб'е буржуазная вайсковая тэхніка...


На лыжах.

Вось чаму і зьвярнулі мы ўвагу на фізычную культуру. Фізкультура—значыць аздараўленьне нашага працоўнага жыхарства, узмацненьне сілы будаўнікоў комунізму і абаронцаў нашага Саюзу. Фізкультура—значыць палепшаньне гігіэнічных умоў, у якіх жыве жыхарства.

Некаторыя думаюць, што фізкультура гэта фізычныя практыкаваньні, спорт. Гэта зусім ня так: фізкультура ня толькі фізычныя практыкаваньні. Гэтыя апошнія—толькі частка фізкультуры. Зразумела, практыкаваньні ў беганьні, у плаваньні, у падскоках, у прабегах на лыжах, на каньках і г. д.—вельмі карысная рэч: усе гэтыя практыкаваньні даюць разьвіцьцё нашым органам (лёгкія, рукі, ногі, сьпіна), узмацняюць наш організм. Але фізычная культура складаецца ня толькі ў гэтым: яна вучыць, як трэба праводзіць увесь свой дзень для таго, каб быць здаровым.

Паднявольныя працы рабочага, селяніна, з-пад палкі пана і капіталістага не навучылі рабочых і сялян правільна працаваць, г. з. працаваць так, каб у меншы тэрмін і бяз шкоды для сябе вытварыць больш карысных прадметаў. Пан, капіталісты „гналі“ на працу, і працоўны павінен быў адрабляць, памятаючы, што ў капіталістычным сьвеце ёсьць цар бязьлітасны—„голад назова яму“.

Зусім другая справа ў савецкім ладзе: тут ня, „палка“, ня „голад“ гоніць на працу. Працоўныя працуюць на сябе, на карысьць сваёй дзяржавы, дзеля карысьці ўсіх (а не для збагачэньня капіталістага). Праца ў нас ня „кара“, а карысная для працоўнага і для грамадзянства справа. Дзеля таго ў нас іначай павінен адносіцца кожны рабочы, кожны селянін да працы: ён павінен так збудаваць сваю работу, каб як можна больш прынесьці карысьці, больш выпрацаваць карысных прадметаў.

А каб селянін і рабочы маглі лепш працаваць, ім патрэбна сіла: куды-ж кволаму хваравітаму селяніну справіцца з яго цяжкою сельскаю працаю—касьбою, ворывам, малацьбою? Толькі здаровы селянін і рабочы можа добра працаваць.

Фізкультура, якая ўзмацняе здароўе працоўных, такім чынам, дапамагае ўздыму вытворчасьці працы. У сучасны момант і комуністычная партыя і профсаюзы, і Савецкая ўлада паставілі сабе задачай падняцьце вытворчасьці працы. Фізкультура, такім чынам, дапамагае ажыцьцяўленьню гэтай галоўнай задачы.

Фізкультура вучыць, як трэба працаваць. Яна-ж вучыць, як трэба адпачываць. У часы ўціску цара і капіталістых рабочы і селянін у сваёй цемнаце і недахопах

ува ўсім, вельмі часта бачыў адпачынак у тым, каб пайсьці ў карчму ці манапольку і напіцца... Фізкультура ўказвае забавы, якія карысны і прыемны для таго, хто адпачывае. Зараз ужо і дарослыя, нават дзяды, у часе сьвятаў і адпачынку стараюцца падыхаць чыстым паветрам, а хто можа—прыняць удзел у розных забавах. Узімку на лыжах, улетку—у лесе альбо на лодках і г. д. А моладзь займаецца спортам, г. зн. беганьнем, падскокамі, лыжамі, каньками і г. д.

Такім чынам, фізкультура перарабляе ўвесь быт, ад працы да адпачынку. Замест цёмнага быту, быту нявольніцтва, фізкультура ўводзіць здаровы, чысты, радасны быт комунізму.

Вось якія задачы фізкультуры.

Калі ўсё гэта можа быць прыстасована да ўсяго насельніцтва, то тым больш можа быць прыстасована гэта да моладзі.

У маладым узросьце організм толькі ствараецца; формуюцца грудзі, лёгкія яшчэ толькі разьвіваюцца, мускулы ўзмацняюцца, косьці цьвярдзеюць. Для такога ўзросту фізкультура, г. зн. чыстае паветра, сонца, фізычныя практыкаваньні, маюць асаблівае значэньне. Узмацніўся і разьвіўся організм у маладым узросьце—ён усё жыцьцё зьяўляецца магутнай крэпасьцю, якую ня так лёгка можа ўзяць хвароба; працаздольнасьць такога організму забясьпечана.

А калі ў маладым узросьце на гэта не зьвяртаць належнай увагі,—кволы, слабы чалавек, з упалымі грудзямі, слабымі мускуламі, блядым тварам—кепскі будаўнік, дрэнны абаронца. Дзеля гэтага калі фізкультура патрэбна дарosламу чалавеку, то ў тысячу разоў яна патрэбней моладзі. Ды яна ў тысячу раз прыемней моладзі, бо ў маладым організьме кіпіць энэргія, і моладзь ахватней дарослых займаецца ўсякага роду фізычнымі практыкаваньнямі.

І калі ў адносінах да дарослых калі-небудзь прыходзіцца ўспамінаць прыказку, што „гарбатага выправіць магіла“, г. зн. з старымі, пакалечанымі капіталістычным рэжымам, цяпер цяжка што-небудзь зрабіць, то ў адносінах да моладзі справа стаіць якраз наадварот: ад нас саміх залежыць, ці будзе ў нас здаровая, г. зн. працаздольная і бояздольная зьмена, ці ўтрымае ў сваіх руках наша моладзь сьцяг Уладзімера Ільліча, які мы перададзім ёй.

І трэба ўсе магчымасьці прыкласьці да таго, каб сьцяг Ільліча перахапілі ў нас здаровыя, моцныя рукі моцных духам і целам юных ленінцаў. А дзеля гэтага моладзь уся, пагалоўна, павінна заняцца фізычнай культурай.

Ад здароўя нашае маладое зьмены залежыць будучына соцыялістычнай рэволюцыі.

Н. Сямашка.

---

# Фізкультура ў атрадзе зімой.

Пры правядзеньні працы па фізвыху ў атрадзе ў зімовы час паўстаюць дзьве задачы: праца з піонэрамі для аздараўленьня іх і праца па-за атрадам з неорганізаванымі дзецьмі. Але абедзьве гэтыя задачы пры правядзеньні ў жыцьцё дасягаюцца аднымі сродкамі, ад чаго можа быць аднастайнасьць і паўтарэньні ў працы. Ад гэтага трэба ўхіляцца. Трэба старацца праводзіць працу так, каб у ёй былі ў аднолькавай меры элемэнты практычныя і тэорэтычныя. Злучыць гэта ў адно цэлае ёсьць магчымасьць. А калі гэтыя два моманты будуць злучаны, мы дасягнем і таго, што піонэры будуць самі выхоўвацца і рыхтавацца да працы на пляцоўцы.

Але ўсё-ж большаю часткаю фізвыхаваньне піонэраў прыдзецца праводзіць на пляцоўках. Гэта неабходна таму, што ў клюбах нельга праводзіць заняткаў так, як гэта можна на вольнай пляцоўцы. (Антыгігіэнічны стан клюбу, цёмнасьць памяшканьняў і шмат іншага). З гэтае прычыны правядзеньне на зборах атраду гульняў, якія зьяўляюцца абавязковымі, зможа служыць толькі для таго, каб піонэры гэтымі практыкаваньнямі асьвяжыліся ад залішняй стамлёнасьці.

Калі мы пераносім працу на пляцоўку, то не таму, што маем на мэце прыцягнуць неорганізаваных дзяцей. Перш за ўсё, павадыр атраду павінен памятаць, што асноўным у гэтай працы зьяўляецца выхаваньне яго атраду. У адносінах-жа да не піонэраў асноўным патрабаваньнем павінна зьяўляцца абхапленьне іх піонэрскім уплывам і некаторая плянавая, культурна-асьветная апрацоўка іх.

Правядзеньне плянавай працы па фізпрактыкаваньню на пляцоўцы з піонэрамі зусім не патрабуе адзяленьня іх ад не піонэраў. Астатнія могуць прымаць удзел ува ўсіх гуль-

нях і іншых фізпрактыкаваньнях атраду. Розьніца толькі ў тым, што для данага атраду гэтыя гульні і практыкаваньні будуць сыстэматычна, плянава і рэгулярна пабудаваны, а для не піонэраў гэта плянавасьць будзе адсутнічаць. Толькі ў працы атраду на лыжах і на каньках магчыма вылучэньне атраду ад піонэраў, калі ня будзе хапаць патрэбных прылад для гэтага.



Выезды на лыжах бязумоўна павінен праводзіць кожны атрад, якія ў пачатку павінны заменяцца (у пэрыодзе вывучэньня на лыжах) лыжнымі лекцыямі на пляцоўцы. З гэтае прычыны магчыма адступленьне ў гэтым пытаньні ад агульнага прынцыпу сумеснай працы атраду з не піонэрамі на пляцоўцы. Уся праца па фізкультуры павінна праводзіцца бяз шкоды для ўсёй іншай працы атраду і бяз лішняй нагрузкі. Яна павінна зьяўляцца неабходнай працай усяго атраду. Не адзін збор атраду не павінен быць праведзены без таго ці іншага элемэнту фізкультуры: прычым, прысутнасьць актыўнага элемэнту фізкультуры (гульні, фізпрактыкаваньні) абавязкова. Гутаркі па пытаньнях фізкультуры не павінны займаць шмат часу і павінны быць уведзены ў агульны цыкл гутарак, якія праводзяцца ў атрадах. Усё бытавое фізкультурнае выхаваньне піонэраў павінна быць пабудавана на аснове быту самога атраду. Тэорэтычнае абаснаваньне ўсіх фізкультурных мерапрыемстваў павінна даваццa поруч з практычным, у якасьці кароткіх увагаў-растлумачэньняў. Тое самае ў адносінах да бытавой выхаваўчай працы павінна быць зроблена і на пляцоўцы. Праца на пляцоўцы не павінна даваць лішняй нагрузкі піонэрам і толькі ў крайнім выпадку можа быць зроблена павялічэньне ліку збораў атраду, або зьвяна для гэтай мэты. І гэта павялічэньне ні ў якім разе не павінна быць больш аднаго разу ў тыдзень. Галоўным чынам яно павінна быць накіравана да выкарыстаньня ўжо праведзенага разьмеркаваньня збору зьвяна і атраду, да перанясеньня часткі збораў на пляцоўку. Гэта тым лягчэй, чым больш атрадаў будзе прымацована да тэй, ці іншай пляцоўкі. Як мінімум, пры якім ня можа быць лішняй нагрузкі, лепш усяго прымацоўваць да атрадаў дзяжурыць на пляцоўцы кожны дзень павінны два зьвяна, па дзьве гадзіны кожнае зьвяно ў дзень. Кожны атрад павінен дзяжурыць адзін раз у два тыдні.

**Н. Задорын.**

**ПІОНЭР ІМКНЕЦЦА ДА ВЕДАЎ. ВЕДЫ І ЎМЕНЬНЕ—СІЛА Ў ЗМАГАНЬНІ ЗА СПРАВУ ПРАЦОЎНЫХ.**



**ПІОНЭР АХОЎВАЕ ЗДАРОЎЕ СВАЁ І ІНШЫХ, ЁН ВЫНОСЬЛІВЫ І БАДЗЁРЫ. УСТАЕ РАНА, ЧЫСТА ВЫМЫВАЕЦЦА, РОБІЦЬ ГІМНАСТЫКУ.**

# Сакрэт вучонага.

*(Апавяданьне).*

Жыў калісьці выдатны вучоны, які дні й ночы сядзеў над сваімі шматлікавымі кнігамі, сядзеў і вывучваў усе навукі і веды цэлага сьвету.

І быў гэты вучоны надта бедны.

Ніхто ня знаў і не разумеў нічога аб яго вучонасьці і мудрасьці. Ведама, людзі заўсёды заняты працаю, і вучоны жыў сярод людзей, але заўсёды толькі і сядзеў над сваімі кнігамі. Нават, калі ён выходзіў з сваёй квартэры, ён ня йшоў да людзей, але хадзіў у лес і ў поле. Ён прабіраўся на горы, даліны і разглядаў і вывучаў усялякую расьліну, казюльку, гада, усялякую іншую істоту на зямлі. Гэтыя экскурсіі былі для вучонага толькі самаадукацыяй. Дома ў сябе ён вывучаў з кніг, а тут у полі—з прыроды. Ён ужо добра ведаў натуру ўсякай жывой істоты і ў поле йшоў затым, каб у прыродзе самой знайсьці тую якасьць, аб якой яшчэ не даведаўся ён з кніг.

Другія людзі, якія зналі пра вучонага толькі тое, што ён бедны, бачачы яго над кнігамі і нават у полі за адукацыяй,—надта дзівіліся і лічылі яго дурнаватым.

„Для чаго яму патрэбна так многа ведаў? Што ён хоча знайсьці ў сваіх кнігах?“ думалі людзі.

„Лепей ён зрабіў-бы, каб працаваў, альбо заняўся гандлем, як усе людзі на сьвеце. То-ж ён надта бедны, ён ня мае новага адзеньня, а часта нават і хлеба для яды“.

Так думалі староньнія асобы, а таксама некаторыя знаёмыя вучонага. А пра яго розум і мудрасьць ніхто нічога ня ведаў.

Час-ад-часу знаёмыя прыходзілі да вучонага і, бачачы яго над сваімі кнігамі галодным, гаварылі яму:

— Ужо досыць вы ведаў маеце! Вы ўжо надта адукованы! Вы маглі-б зрабіцца настаўнікам або доктарам. Вядомы вам усе навукі! Людзі, як вы, заўсёды становяцца вялікімі багатырамі.

— Маё багацтва—толькі навука і веды, і іх я шукаю,—адказаў вучоны і зноў узяўся за сваю навуковую працу.

У сваім сэрцы мудрэц насіў адзін сакрэт, якога ён не адкрываў нікому.

Гэтым сакрэтам было—моцнае жаданьне вызваленьня ўсіх людзей сьвету ад іх шматлікіх хвароб.

Ёсьць на сьвеце многа ўсякіх хвароб і пошасьцяй. Хваробы губяць шмат дзяцей і маладых людзей. Хваробы—прычына пакут і суму хворых. Хваробы—сьлёзы і гора для родных і блізкіх знаёмых хворага альбо памёршага. Шмат ёсьць на сьвеце і дактароў і больніц, але ня ўсе лякарствы карысны і дапаможны. Людзі ня маюць магчымасьці ўсьцерагчы сябе ад усіх пошасьцяй. Небаракі, яны як-бы знаходзяцца ў лесе паміж драпежных зьвяроў і нічога ня маюць для сваёй абароны і ратунку. А калі і маюць, дык вельмі мала сродкаў.

Мудрэц меў спагаднасьць і спачуваньне да няшчасных і ахвяраваўся вызваліць чалавецтва ад хвароб і знайсьці ад усіх хвароб магутныя лякарствы. Ён прабаваў усялякія спробы, ён ведаў аб усіх спосабах лячэньня хвароб і верыў, што сродкі для зьнішчэньня ўсіх хвароб існуюць у прыродзе, але вучоныя яшчэ ня ведаюць аб іх.

Гэты сакрэт сваіх ведаў, і свайго жыцьця ён не адкрываў нікому нават сваім добра знаёмым не казаў ён аб гэтым ніводнага слоўца. Вучоны ведаў, што людзі доўгі час ня будуць верыць, пакуль ня ўбачаць сваімі вачыма. Калі-ж ён і скажа ім што, яны пасьмяюцца з яго і назавуць гэта сном вар'ята, бо такога лякарства ня існуе, яго ніколі ня будзе на сьвеце.

Мудрэц ведаў натуру чалавека, загэтым ён маўчаў і будзе маўчаць пакуль ня знойдзе таго, чаго шукае. Тады ён абвесьціць вайну ўсім хваробам і пошасьцям, і людзі тады пераканаюцца, што ён ёсьць збавіцель чалавецтва ад пакут і горкага суму.

Праходзілі нядзелі, месяцы, гады. Вучоны ўпарта дамагаўся сваёй мэты. Дзень-ададня ён усё худзеў, яго твар зьбялеў, вочы запалі, бо галодным ён быў заўсёды; толькі моцнае жаданьне пазбавіць сьвет давала яго цэлу сілу перамагаць голад, і вось... вучоны знашоў дарогу, якая вяла да мэты і надта ўзрадваўся. Ён ня меў больш сілы стаяць на нагах, але радасьць дала надзею яго сэрцу: яшчэ трохі цярпеньня, і ён будзе ўладаць дзіўным лякарствам, якое ён адшукаў у прыродзе. Яшчэ трохі цярплівасьці, і ён выйдзе ў сьвет. Усе людзі ўзрадуюцца, і ён пачне есьці і піць і быць вясёлым, бо ён прынёс збавеньне нячшасным, якія ёсьць на сьвеце.

І прышоў, нарэшце, шчасьлівейшы момант. Вучоны знашоў тое, што шукаў. Ён знашоў

раду ад усіх хвароб. З вялікай радасьцю ён закрыў усе кнігі і ўскочыў з свайго сядзеньня.

Ён хацеў хутчэй выйсьці і ўрачыста абвясьціць людзям радасную навіну, крычаць моцна, што прышоў канец усім хваробам...

Але раней, чымся дасягнуць дзьвярэй, ён паваліўся бяз сіл на зямлю...

На другі дзень прышлі знаёмыя і знашлі мудраца нежывым на падлозе. Таксама зьбегліся і чужыя людзі. Усе абступілі памершага і з горкім сумам казалі:

— Шкада! Такі чалавек! .. Ён памёр з голаду. Небарака!

І ня ведалі людзі, што яны няшчасьней за яго...

Усе людзі цяпер няшчасныя: яны ня ведаюць сакрэту вучонага, яны ня ведаюць, што разам з выдатным вучоным памерла магутная ад усіх хвароб рада, якая прынесла-б людзям шчасьце ў іх жыцьці.

З таго часу прашло многа гадоў; хваробы і пошасьці ня зменьшыліся на сьвеце; людзі чакаюць магутнай рады ад іх, але да гэтае пары не зьявіўся яшчэ другі вучоны, які знашоў-бы гэту магутную раду ад хвароб і пошасьцяй.

Але хто ведае!..

Можа й быў ужо другі, чый канец жыцьця быў падобны да таго першага, які памёр з голаду...

Хто ведае?..

З эспэранто
**Дз. Мі—ка.**

# Навіны з навукі і тэхнікі.

## Сучасны Нью-Іорк.

У Ленінград нядаўна зьвярнуўся з паездкі ў Амэрыку вядомы спэцыялісты ў морскіх портавых справах профэсар Ляхніцкі, які езьдзіў туды з дэлегацыяй наркомшляхаў СССР. У гутарцы проф. Ляхніцкі сказаў:



— За апошнія гады амэрыканская тэхніка пабудовы портаў дасягла значных вынікаў.

Амэрыканская тэхніка зьдзіўляе сваёй велічынёй, шырынёй размаху ўва ўсіх галінах жыцьця. У Нью-Іорку ужо будуюць 58-паверхавыя дамы. Электрыфікацыя стаіць на найбольшай вышыні свайго разьвіцьця.

Пасьля Нью-Іорку, скрозь залітага сьветам, Парыж і Лёндан здаюцца цьмянымі.

Там, дзе ў Эўропе ставяць лямпу ў 25 сьвечак, амэрыканцы даюць 150 сьвечак. Самая асьветленая вуліца Нью-Іорку—„Бродвей-42“ носіць назву „Белыя дарогі“.

Наша дэлегацыя была спаткана ў Амэрыцы вельмі прыхільна, нават лепш, чым мы спадзяваліся. Адчуваецца жаданьне ўтварыць сувязь з Савецкім Саюзам.

## Кругасьветнае падарожжа на трактары.

Вядомы нямецкі машынабудаўнічы завод Лянц арганізаваў кругасьветнае падарожжа нафтавага саракасільнага трактара нормальнага тыпу. Падарожжа пачнецца з Бэрліну і адбудзецца па маршруту: Чэхія, Вэнгрыя, Румынія, Баўгарыя, Грэцыя, Турцыя, Пэрсыя, СССР., Кітай і г. д. Працягнецца падарожжа каля 4 гадоў.

## 486,4 кілёмэтра ў гадзіну.

У Амэрыцы адбыліся спробы на хуткасьць палёту аэроплянаў сыстэмы „Кертіс“, якія далі новы сусьветны рэкорд хуткасьці 486,4 кілём. у гадзіну.

## Кіно, якое гаворыць.

Шмат вынаходцаў ламалі сабе галовы над пабудаваньнем кіно-карціны, якая-б гаварыла: бачыць карціну і ў той-жа самы час чуць галасы артыстых, якія прымаюць удзел.

Нядаўна радыё-станцыя ў Сан-Францыска (Паўночна-Амэрыканскія Злучаныя Штаты) вельмі ўдала разьвязала гэтую задачу і адначасова наладзіла пастаноўку кіно-карціны, якая гаворыць у тэатрах 12 бліжэйшых гарадоў:

Вось як гэта было зроблена:

Адна і тая-ж пастаноўка была адначасова паказана ўва ўсіх кіно-тэатрах і на цэнтральнай радыё-станцыі. Тут, на станцыі, знаходзіліся і артыстыя гэтай пастаноўкі. Артыстыя разыгрывалі п'есу па ходу дзеяньня на экране. Ува ўсіх тэатрах меліся прыймовыя станцыі з моцнагаварыльнікамі, дзякуючы якім у тэатрах былі выразна чутны галасы кіно-артыстых.

## Новы паравоз-гігант.

У Амэрыцы пабудованы новы вялікі паравоз, які зьяўляецца апошнім дасягненьнем тэхнікі. Ён можа цягнуць 100 амэрыканскіх падвойных таварных вагонаў. Пры гэтым ён траціць амаль у два разы меней апалу, чымся самыя лепшыя паравозы, якія ўжываліся да гэтае пары. Важыць гэты паравоз 203 тоны (тона—61 п.). На вопыты і дасьледваньні па яго ўдасканаленьні страчана каля 200 тысяч рублёў золатам

# ГУЛЬНІ.

## Дыплёматы.

**Прымаюць удзел у гульні:** ад зьвяна да атраду.

**Месца гульні:** клюб.

Усе, хто прымае ўдзел у гульні, падзяляюцца на дзьве групы і разыходзяцца на бакі супроць адна другой. Адна з груп падыходзіць да другой і ўяўляе з сябе дыплёматаў. Паміж абедзьвюма групамі пачынаецца дыплёматычная гутарка. Адзін пасланьнік кажа які-небудзь жарт, напр.: „Вашы стральцы падстрэлілі птушку, якая пераляцела нашу граніцу“. Дыплёматы другой групы павінны таксама сур'ёзна адказаць падобнымі жартамі. Выйграўшай лічыцца тая партыя, якая ня бузде сьмяяцца ў працягу вызначанага часу.

**Значэньне гульні:** разьвіваецца цямлівасьць, гульня дапамагае прысваеньню гутаркі.

**Мэтодычныя ўказаньні**. Гульня павінна быць абаснавана на апошніх дыплёматычных падзеях, дзеля чаго да гульні праводзіцца гутарка на гэту тэму.

Трэба старацца організаваць гульню так, каб кожны з удзельнікаў пабыў пасланьнікам.

## Ціхая музыка.

**Лік удзельнікаў гульні:** ад зьвяна да атраду.

**Прадметы гульні:** розныя прадметы.

Усе, хто прымае ўдзел у гульні, рассаджваюцца ў пакоі. З іх вылучаецца адзін, які выходзіць у другі пакой. У гэты час павадыр умаўляецца з удзельнікамі гульні, як і якую рэч захаваць, каб той, хто выходзіць, яе знашоў. Калі рэч захована, вызначаны для шуканьня ўваходзіць, а ўсе пачынаюць напяваць мэлёдыю (мотыў) якой-небудзь песьні, пры гэтым сьпяваюць ціха. Калі-ж той, каго выводзілі, падыходзіць да месца, дзе знаходзіцца прадмет, мэлёдыя ўзмацняецца, калі-ж ён адыходзіць, яна зноў заціхае.

Такім чынам—да тых пор, пакуль рэч ня будзе знойдзена.

**Значэньне гульні:** разьвіваецца ўвага і слых.

**Мэтодычныя ўказаньні.** Гульню ў пачатку трэба праводзіць больш лёгкую. Пры паўтарэньні можна ўскладніць тым, што, апрача знаходжваньня прадмету, выведзены павінен прарабіць яшчэ якія-небудзь рухі. Напрыклад: знашоўшы захованую ручку, ён павінен напісаць што-небудзь, знашоўшы шапку, ён павінен яе надзець і г. д. Калі выведзенаму ня ўдасца знайсьці прадмет альбо прарабіць рухі, ён павінен быць заменены.

## Не зявай!

**Прымаюць удзел у гульні:** зьвяно—атрад.

**Апісаньне гульні.** Удзельнікі гульні, падзеленыя на дзьве роўныя партыі, становяцца сябар супроць сябра на адлегласьці 20 крокаў. У сярэдзіне праводзіцца лінія. Па камандзе, партыі выходзяць з сваіх гарадоў да сярэдняй лініі. Там утвораныя пары будуюць слупкі з сьнегу. На слупок кладзецца сьнежка так, каб яна не зьляпілася з слупком. Пасьля гэтага шэрагі адыходзяць на крок назад, адна з партый уяўляе з сябе захопнікаў, другая—вартаўнікоў. Задача першых захапіць сьнежкі, задача другіх—не дапушчаць гэтага. Па камандзе павадыра, кожны з захопнікаў робіць розныя рухі, якія вартаўнік павінен паўтарыць. Адцягваючы ўвагу вартаўніка, захопнік павінен захапіць сьнежку. Вартаўнік, заўважыўшы, што сьнежка сарвана, не зьбягаючы з месца, павінен выцяць сьнежкаю захопніка, які ўцякае ў свой горад. Калі ў працягу вызначанага часу вартаўнікі не закідаюць сьнегам большасьці захопнікаў, тыя выйгрываюць.

**Значэньне гульні:** разьвіваюцца мускулы цела, рук, ног, а таксама здольнасьць лучаць ў рэч, якая не стаіць на месцы.

**Мэтодычныя ўказаньні.** Для больш правільнага вядзеньня гульні на кожныя тры-чатыры пары павінен быць судзьдзя. Гульню доўга, без перамены роляй партый, праводзіць ня трэба, бо ногі ў аднэй партыі да перамены абавязкаў зусім бязьдзейнічаюць.

# Аб чым пісаць у часопіс „Беларускі Піонэр“.



Лік піонэраў, вучняў і наогул дзяцей, якія пішуць у нашу часопісь, з кожным днём павялічваецца, але трэба адзначыць, што ня ўсе матэрыялы зьмяшчаюцца, а гэта дрэнна адбіваецца на настроях нашых корэспондэнтаў—адпадае ахвота больш пісаць.

У гэтым маленькім артыкуле мы сягоньня трохі пагутарым аб чым пісаць у часопісі. Першае, гэта кожнаму, хто піша, трэба заўсёды памятаць аб тым, што часопісь чытаецца ня толькі піонэрамі альбо дзяцьмі яго атраду, вёскі, школы, а таксама ўсімі дзяцьмі Беларусі. Гэта значыць, што пісаць трэба аб тым, што будзе цікавым для ўсіх чытачоў.

Есьць маленькія дробныя здарэньні, цікавыя толькі для піонэраў свайго атраду. Напрыклад, аб тым, што павадыр зьвяна дрэнна праводзіць свае заняткі на сходзе зьвяна, альбо той ці іншы піонэр ня выконвае сваіх піонэрскіх абавязкаў. Калі аб гэтым пісаць у часопісь, яно будзе няцікава для ўсіх чытачоў, аб такіх здарэньнях лепей за ўсё пісаць у насьценную газэту, што будзе даваць большую карысьць для самаго атраду.

Мы ў сваёй часопісі ставім аднэй з галоўных задач высьвятленьне становішча нашай піонэр.-організацыі, жыцьця дзяцей Беларусі, высьвятляючы вопыт працы, які магчыма-б было скарыстаць (калі ён добры) для ўсіх атрадаў і дзяцей.

Адгэтуль выплывае задача кожнага, хто піша ў часопісь, больш высьвятляць вопыт працы і наогул становішча організацыі. У часопісь трэба пісаць аб тым, якую працу праводзяць піонэры ў сям'і, якія маюцца дасягненьні ў гэтай галіне, як трымае сябе піонэр у сям'і, якія патрэбны практычныя ўказаньні ў гэтай галіне працы.

Вялікае значэньне мае высьвятленьне ўзаемаадносін піонэраў з неорганізаванымі дзяцьмі, як глядзяць на піонэраў дзеці, неабхопленыя піонэрскай організацыяй, якія маюцца дасягненьні і ў гэтай галіне.

Неабходна таксама пісаць аб працы піонэрскага атраду з бацькамі, якія праводзяцца вечары, думкі бацькоў аб піонэрах, чаму бацькі калі-ні-калі ня пускаюць у піонэрскія атрады сваіх дзяцей і г. д.

Мы зараз зьвяртаем вялікую ўвагу на працу вясковага атраду ў галіне сельскай гаспадаркі—агропрапаганды. У нас ёсьць шмат дасягненьняў, а таксама і недахопаў, але мы іх яшчэ да гэтага часу мала высьвятляем на старонках нашай часопісі. Задачай корэспондэнтаў зьяўляецца таксама высьвятленьне і гэтай галіны нашай працы. Трэба пісаць аб дасягненьнях так, каб другі піонэр.-атрад, у якога ёсьць шмат недахопаў, які добра ня ведае, як трэба разгарнуць гэтую працу, здолеў, чытаючы гэтую заметку, скарыстаць для сваёй практычнай працы.

Таксама шмат чаго цікавага бывае і ў школах. Есьць такія здарэньні, калі піонэры адносяцца з гонарам да астатніх вучняў, часткова ня лічаць неабходным насіць свай гальштук. Аб гэтым неабходна таксама пісаць. Трэба высьвятляць жыцьцё нашых дзяцей, што іх больш за ўсё цікавіць, якія перашкоды маюцца ў галіне іх жыцьця і г. д.

Цяпер на Беларусі ў нас пачаўся рост груп акцябрат—малодшых братоў піонэраў. Неабходна пісаць і аб іх жыцьці. Усе піонэры і дзеці ведаюць і нават самі заўважваюць недахопы, якія ёсьць у часопісі „Беларускі Піонэр“, іх магчыма будзе зьнішчыць толькі тады, калі кожны, хто яе чытае, напіша ў рэдакцыю“ ліст аб заўважаных недахопах, дасьць свае думкі як далей палепшыць гэта.

Адгэтуль мы бачым, што задачай кожнага піонэра і наогул дзеткора зьяўляецца пісаць аб жыцьці дзяцей і працы піонэрскіх атрадаў.

Было-б вялікай памылкай, каб той, хто піша, высьвятляў той ці іншы факт, не даючы яго прычыны. Перш чым пісаць, трэба добра падумаць аб тым, што зьбіраешся пісаць, аб прычынах таго ці іншага здарэньня, аб якім хочаш пісаць. Апрача таго, трэба запамятаць, што пісаць неабходна ня толькі аб недахопах, а таксама і аб дасягненьнях.

Шмат піонэраў і дзяцей пачынаюць пісаць свае вершы, інсцэніроўкі, п'ескі і г. д. На творчасьць самых дзяцей мы ўскладаем вялікую надзею. „Беларускі Піонэр“ павінен узяць на сябе абавязак кіраваньня гэтай творчасьцю, шляхам друкаваньня вершаў, інсцэніровак, якія можна было-б скарыстаць для піонэраў, поруч з гэтым даваць належныя паказаньні аб недахопах тым, якія дрэнна пакуль што яшчэ пішуць.

Трэба пісаць свае думкі аб якасьці зьмяшчаемых артыкулаў, п'есак, незразумелых слоў, якія, можа, заўважваюцца ў часопісі. Адначасна кожны, хто піша, павінен трымаць сьціслую сувязь з рэдколегіяй шляхам лістоў, на якія яна заўсёды дасьць адказ праз часопісь.

Такім чынам, у будаўніцтве нашай часопісі будуць прымаць удзел усе дзеці і піонэры. Вось аб чым мы сягоньня хацелі пагутарыць у артыкуле. У другі раз мы напішам ня толькі аб чым пісаць, але і аб тым, як пісаць.

**М. Л.**






## Жарты.

**Бацька**—Ня ведаю: што зрабілася з маім насьценным гадзіньнікам? Бывала добра хадзіў, а цяпер стаў—і хоць ты плач. Трэба яго аддаць майстру пачысьціць.

**Дзеці**—Ня трэба, татачка! мы з Сымонкам учора яго добра з мылам і пяском вымылі!

**Бацька**—А, вось што?! Ну дык трэба-ж майстрам заплаціць за фатыгу... Давайце лазы сюды!..

---

У двух сьляпых памёр брат. Але, як вядома, у памёршага, ня было братоў. Хто былі сьляпыя?



№ 1.

Што заўсёды ляціць не аддыхаючы і ня мае крыльляў?

---

Каго надта высокі чалавек бачыць рэдка, а сярэдні—часта?

---

Які дзень тыдню даўжэй другіх?

---

Дзе канчаецца Эўропа і пачынаецца Амэрыка?

---

Якая жывёла самая сільная, што можа насіць сваю хату?

---

З якой расьліны і літары складаецца большая частка нашых чытачоў?

Чаго нельга са сьцяны ні выскрабці, ні замаляваць, ні змыць?

---

У каго ёсьць шапка без галавы і нага бяз бота?

## Адзін разумней другіх.

Адзін селянін, які ня мог цярпець, як яго работнік Пётра рабіў усё надта марудна, захацеў даць яму адукацыю.

Аднойчы раненька яны ўдвох пашлі на поплаў касіць сена:

— Так пацiху ідучы, Пётра, мы прыдзем на працу не раней, як у паўдня! Давай нібыта выйдзем на паляваньне: Я буду заяц, а ты сабака. Паглядзім ці ты зловіш мяне!— З гэтымі словамі гаспадар пабег; Пятрусь, кінуўшы сваю касу, кінуўся за ім.

Хутка яны засопшыся прыбеглі на поплаў. Гаспадар усьміхаўся, здаволены сваёй выдумкай.

— Бачыш, Пётра, не дагнаў ты мяне... Але дзе-ж твая каса?..

На гэта Пятрусь адказаў:

— Я ніколі яшчэ ня бачыў сабакі, які калі-небудзь бег-бы за зайцам з касой, а таму я яе кінуў!..

Гаспадар зразумеў, што нічога не дапаможа. А Пятрусь пашоў назад, пераступаючы з нагі на нагу.

---

## Хто адгадаў задачы з папярэдніх нумароў.

Да шарады „Бегаў Бай па сьцяне“ падабралі рыфмы наступныя таварышы: **Кулікоўскі, Старадынаў і Піонаў.**

Задачу №1, зьмешчаную ў часопісі „Беларускі піонэр“ №9-10 адгадалі т.-т. **Старадынаў і Піонаў.**

---

Задачу № 4, зложаную з 5 квадратаў, адгадалі т.-т. **Антось К. і А. Кулікоўскі.**



№ 2.



№ 3.

**Адгадайце, што намалявана пад № № 1, 2 і 3.**

# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.



**Пікору**—„Так нельга“, **Лацкевічу**—„Чытай кнігі“, **К. Шавелю** — „Корэнспондэнцкі гурток“, **Капейкіну**—„Як працуе атрад“. Вашы ўсе вышэйазначаныя допісы ня пойдуць.

**П. Пратасевічу**—Каліне—твае вершы „Комсамольцу і „МОПР“ пойдуць у адным з бліжэйшых нумароў „Б. П.“, а ўсе астатнія вершы да друку не падыходзяць. Пішы больш. Асабістую ўвагу зьвяртай на мову і рэальнасьць вершу,—ня трэба даваць такой фантазіі, якая існуе ў тваіх вершах.

**В. Меляшкевічу**—твой верш „9-е студзеня 1905 г.“ да друку не падыходзіць. Папершае, ён спазьніўся, падругое, думка старая і тэхніка вершу слабая. Чытай сучасныя творы маладнякоўцаў, наогул комсамольскіх поэтаў, і вучыся ад іх, як трэба пісаць.

**Л. Хейфецу**—твае вершы да друку не падыходзяць. Напісаць верш лёгка, але трэба добра абдумаць тое, аб чым думаеш пісаць.

**М. Крэльязу**—„Успаміны“ і „Беларускай зямлі“, **А. Крыгу**—„Піонэры дружна ў ногу“, **Ц. Ліўшыцу**—„Вучысь“. Вашы вершы да друку не падыходзяць.

П‘есы: „Дазналіся“—**Я. Ерша**, „Янка партызан“—**Кручнікава і Махнача**, „Стой за сваіх“—**П. Гарасімовіча і Ян. Гарасімовіча**, „Міхаська піонэр“—**Вершаліна і Чарпакова**, „Змаганцы за народ“—**С. Астрэйкі**—ня пойдуць.

**Н. Ляхавіцкаму**—твае допісы: „Хор-гурток“, „Наша шэфства“, „Дапамагаем рабкорам“ і „Наша гадавіна“—да друку не падыходзяць.

**А. Клябанаву**—твае вершы „Кліч Ільліча“ і „Сьмерць Ільліча“—ня пойдуць.

**Кантаровічу і Віткоўскаму**—вашы допісы: „2 гады бяз клюбу“ і „2 атрад“—ня пойдуць.

**Гэрцовіч-Водгуку**—твой верш „Слаўны год“ ня пойдзе.

**Турыну**—допіс „Вось сакратар“ дай у насьценную газэту.

**Усім нашым корэспондэнтам.**

У чарговым нумары мы дадзім аб‘яву, чаму тыя ці іншыя допісы не падыходзяць і як трэба пісаць.

## ЗАПЫТАНЬНІ:

1. Ці можна піонэру быць пікорам і як ім зрабіцца?
2. Ці можна маляваць у сваю часопісь „Беларускі піонэр“ малюнкі да сваіх допісаў?
3. Што рабіць з тым піонэрам, які, атрымаўшы гальштук, ня хоча хадзіць на заняткі?

**Лапкоўскі.**

4. Ці я маю права ўваходзіць у савет атраду з правам пастаноўчага голасу, займаючы пасаду адказнага рэдактара насьценнай газэты?

**Волькінд.**

5. Ці можа піонэр, які ўжо перашоў у Комсамол, насіць значок КІМ‘у?
6. Ці можа піонэр-комсамолец сядзець за працай болей як 12 гадзін?

**Фінкель.**

7. Ці можа піонэр піць розныя напіткі?
8. Хто павінен кіраваць пікор-гуртком?
9. Што трэба ўводзіць на павестку дня, каб яна зацікавіла ўвесь сход піонэраў?
10. Ці можна піонэру даваць руку пры спатканьні з дарослымі людзьмі?

**Яцкевіч.**

## АДКАЗЫ:

1. Піонэр, кожны, хто піша ў насьценную альбо наогул у газэту, можа быць дзеткорам, але ня пікорам. Цяпер пікорамі корэспондэнтаў не завуць, а завуць дзеткорамі, гэта значыць, што дзеткорам можа быць і ня толькі піонэр.
2. Можна.
3. Трэба паставіць пытаньне на зборы атраду, выявіць прычыну,—а потым ужо глядзець, якія меры трэба прыняць.
4. Ня маеш права, але прысутнічаць можаш.
5. Вядома, што можа.
6. Гэта залежыць ад узросту. 12 гадзін працаваць—гэта многа. Дрэнна адбіваецца на здароўі.
7. Гледзячы якія—там, дзе ёсьць алькоголь (гарэлка, моцнае віно),—ня трэба піць: гэта не на карысьць здароўю.
8. Дзеткор-гуртком можа кіраваць комсамолец, а таксама і настаўнік.
10. Калі яму падаюць і ня ведаюць закону—можна падаць руку, але трэба зараз-жа сказаць, што піонэры рукі не даюць. Наогул за руку піонэр ня вітаецца, на гэта ёсьць салют.

Выданьне НКА БССР. Адказны рэдактар: **Рэдколегія.**

ЗЬМЕСТ.

ЦАНА НУМАРУ 20 к.



# ВЫПІСКА

з дзеньніка сходу групы акцябрат пры атрадзе імя СТАЛІНА.




Сягоньня ў нас сход пачаўся роўна ў 12 г. дня. Прысутнічалі на сходзе: павадыр—Міхась, памоцнік—Алесь, Іван, Юзік, Манька з маткай, Кастусь, Язэп, Паўлюк, Андрэй і яшчэ больш хлапцы і дзяўчаты.

Павадыр Міхась растлумачыў нам аб часопісі „БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР“. Ён казаў, што часопісь добра высьвятляе жыцьцё нашых старэйшых братоў—піонэраў і нас—акцябрат. Мы з ім згадзіліся і пачалі раіцца, каб выпісаць „Б. П“. Тады Язэп сказаў усім нам, што грошай мы папросім у бацькоў і ў комсамольскай ячэйцы. Мы вельмі абрадваліся гэтаму і парашылі так і зрабіць.

На сходзе ўсе трымалі сябе добра, толькі Манька ўвесь час сьмяялася і дурэла з сваім таварышом—кошкаю, а матка яе супакойвала. Кошка бегала па стале, разьлівала чарніла, скідала лапамі ручкі. Тады хлапцы, якія пісалі пратакол, затыкалі ручкі за вушы і было ўсім вельмі сьмешна.

Пасьля сходу сьпявалі песьні і гулялі.

Разышліся вясёлыя, з нецярпеньнем чакаючы „БЕЛАРУСКАГА ПІОНЭРА“.

## УМОВЫ ПАДПІСКІ НА „Б. П“.

| | | |
|---|---|---|
| На 3 месяцы | — — | 60 к. |
| На 6 „ | — | 1 р. 20 к. |
| На 12 „ | — | 2 р. 40 к. |

Падпіска прымаецца ва ўсіх паштова-тэлеграфных установах і ў Менску—Савецкая 63, кантора „ЗЬВЯЗДЫ“.